● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

17 кастрычніка 1998 г. субота, № 206 (23557)

# ЗВЯЗДА






*Трагедыя*

## Не падзялілі таксі. Бойка. Смерць

**12 кастрычніка ў Гродзенскай абласной бальніцы памёр малодшы сяржант АМОНа Сяргей Русаковіч, 1974 года нараджэння.**

Некаторыя, магчымыя на сённяшні дзень, падрабязнасці карэспандэнту «Звязды» паведаміў старшы следчы УУС Гродзенскага аблвыканкама Мікалай Бялоў. Паводле яго слоў, у кафэ на вуліцы Горкага абласнога цэнтра адпачывалі дзве кампаніі. У адну ўваходзіла пяцёра хакеістаў клуба «Нёман», у другую — супрацоўнікі міліцыі і два студэнты Гродзенскага дзяржуніверсітэта. Калі кафэ зачынілася, яны выйшлі на вуліцу і тут, ля маркета «Мока», прыкладна ў 2 гадзіны ночы 7 кастрычніка разгарэўся канфлікт. Па інфармацыі следства, «з-за пасадкі ў таксі». На жаль, словамі сварка не абмежавалася, перарасла ў бойку. У выніку здарылася непапраўнае. Сяргей Русаковіч быў дастаўлены ў бальніцу, аднак, нягледзячы на зробленую аперацыю, выратаваць яго жыццё не ўдалося. Ён памёр ад чэрапна-мазгавой траўмы.

Узбуджана крымінальная справа. Абвінавачанне пакуль не прад'яўлена, следства працягвае высвятляць усе абставіны трагедыі.

Інфармацыя аб тым, хто распачаў бойку і хто канкрэтна ў ёй удзельнічаў, супярэчлівая. Па словах прэзідэнта хакейнага клуба «Нёман» Рыгора Бейзака, у яго ёсць наконт гэтага некаторыя звесткі, аднак лепш пачакаць вывадаў следства. У вышэйпамянёную кампанію хакеістаў уваходзілі і ветэраны клуба, і два навічкі, якія толькі з сёлетняга сезона выступаюць за «Нёман». «Тое, што здарылася, — для нас сапраўдны шок», — гаворыць Рыгор Бейзак. Яму вельмі шкада, што пайшоў з жыцця малады чалавек, шкада яго родных і блізкіх. Балюча і ад таго, што такая жудасная «пляма» лягла на клуб, які так удала пачаў гэты сезон. На лёдзе.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*Крымінал*

## Зладзеі «патрашылі» танкі

**Віцебскі міжгарнізонны ваенны суд закончыў разгляд справы пяці ваеннаслужачых, якія займаліся разукамплектаваннем бранятанкавай тэхнікі.**

У прыватнасці, пяцёра вайскоўцаў прызнаны вінаватымі ў тым, што на працягу мінулага года разукамплектавалі 12 танкаў Т-72А, украўшы абсталяванне, вузлы і агрэгаты коштам 294 мільёны рублёў.

Згодна з рашэннем суда ўсе «патрашыцелі» танкаў атрымалі пакаранні ў выглядзе пазбаўлення волі.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**начальнік прэс-цэнтра Пракуратуры Беларусі.**

*Саюз Беларусі і Расіі*

## ВАЕННЫЯ ВЕДАМСТВЫ РАСІІ І БЕЛАРУСІ ЗАКЛАПОЧАНЫ АКТЫЎНАСЦЮ НАТО

**Ваенныя ведамствы Расіі і Беларусі заклапочаны тым, што сфера інтарэсаў, якія кантралююцца НАТО, значна пашыраецца. Аб гэтым 16 кастрычніка ў ходзе пасяджэння калегіі міністэрстваў абароны дзвюх краін у Маскве заявіў міністр абароны Расіі маршал Ігар`Сяргееў.**

Паводле слоў кіраўніка расійскага абароннага ведамства, пасля прыняцця Польшчы, Венгрыі і Чэхіі ў НАТО ўзброеныя сілы Беларусі становяцца першым эшалонам абароны Саюза, а граніцы Паўночнаатлантычнага блока наблізяцца да Расіі і Беларусі на 750 кіламетраў.

Паводле слоў Ігара Сяргеева, у ходзе гэтага пасяджэння калегія не прымала якіх-небудзь рашэнняў па аказанню ваеннай дапамогі Бялграду. Аднак, паводле слоў міністра, касаўская праблема прысутнічала ў парадку дня.

**БЕЛТА.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

- У свеце за апошнія 20 гадоў у час **стыхійных бедстваў** загінула больш як 3 мільёны чалавек.
- На сёння **даўгі рэспублікі** за газ складаюць 234 мільёны долараў ЗША, за нафтапрадукты -- звыш 160 мільёнаў долараў.
- У Беларусі ў сёлетнім годзе ў выніку **няшчасных выпадкаў** у сельскай гаспадарцы загінуў 81 чалавек і 161 работнік атрымаў цяжкія траўмы. Амаль кожны трэці з ліку пацярпелых быў дастаўлены ў медыцынскія ўстановы ў нецвярозым стане.

*УСМІХНЁМСЯ!*

**Кракадзіл Гена з Чабурашкам у ваенкамаце.**
**— Гена, а нас стрыгчы будуць? — пытае Чабурашка.**
**— Не ведаю. Пытайся ў мышкі.**
**— Я не мышка, я — вожык, — чуецца ў адказ.**




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

* * *

**Шэрыф у Тэхасе вырашыў выпрабаваць новага памочніка. З адлегласці пяці метраў ён стрэліў у яго з двух кольтаў і прабіў яму капялюш і падняты каўнер курткі. Памочнік не варухнуўся.**

**— Малайчына, Нік! Трэба купіць табе новы капялюш і куртку!**

**— Не пашкодзіла б і новыя штаны, сэр...**



*ФОТАСЛОВА*

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Калі восень наляцела*
*п'яная,*
*ліставеем сцежкі*
*замяла, —*
*Божа, ахіні*
*маю каханую*
*покрывам надзеі і святла.*
*Я далёка — не дазволь*
*забыцца ёй*
*ні у радасці, ні ў жальбе —*
*хай скавыш пяе*
*за аканіцаю*
*сумным напамінкам*
*пра мяне.*
*І няхай наш лёс*
*не з Божай міласці —*
*заміж птах завейны*
*чуцен спеў —*
*дай адно: каб сэрца*
*не скарылася,*
*каб мой край*
*у сцюжу не знямеў.*

## БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ НАБЛІЗІЛІСЯ ДА ВЫРАШЭННЯ СТРАТЭГІЧНЫХ ЗАДАЧ У СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

**Асаблівым назваў расійскі прэм'ер Яўген Прымакоў чарговае пасяджэнне Выканкама Саюза Беларусі і Расіі, якое адбылося 16 кастрычніка ў Маскве. Асновай для такой заявы паслужыла якасная папярэдняя работа, праведзеная рабочымі экспертнымі групамі. Яны былі створаны пры ўрадах дзвюх краін пасля нядаўняга візіту Яўгена Прымакова ў Мінск.**

Аб старannай падрыхтоўцы да гэтага пасяджэння сведчыць і той факт, што ўсе пяць запланаваных пагадненняў былі падпісаны. Сярод іх дакументы, што вызначаюць умовы продажу Беларусі ў 1998—2000 гадах расійскіх прыродных алмазаў і механізм рэструктурызацыі доўгу нашай краіны «Газпраму» — за пастаўлены газ яна часткова разлічыцца харчовымі таварамі і матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі. Парафіраваны таксама пагадненні аб стварэнні міждзяржаўных фінансава-прамысловых груп, якія будуць не толькі выпускаць прадукцыю, але і сумесна валодаць уласнасцю.

Акрамя таго, паміж Беларуссю і Расіяй заключана пагадненне аб прадастаўленні ў 1998-1999 гг. нашай рэспубліцы дзяржаўнага звязанага крэдыту. Ён пойдзе на развіццё кааперацыі паміж МАЗам і Яраслаўскім маторабудаўнічым заводам.

На пасяджэнні беларускі бок прадстаўляла ўрадавая дэлегацыя на чале з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Акрамя падпісаных пагадненняў у яго ходзе абмяркоўвалася больш як дзесяць пытанняў, якія мелі важнае значэнне для далейшага паглыблення інтэграцыі. Сярод іх праблемы, звязаныя з прававым афармленнем адзінай мытнай прасторы, уніфікацыяй валютнага рэгулявання, абаронай айчынных таваравытворцаў, фарміраваннем адзіных транспартных тарыфаў і стварэннем адзінай энергасістэмы. Акрамя таго, былі разгледжаны праекты канцэпцыі ўзгодненай пагранічнай палітыкі і бюджэту Саюза Беларусі і Расіі на наступны год.

Падводзячы вынікі пасяджэння, Яўген Прымакоў адзначыў, што цяпер Беларусь і Расія пачалі рух да вырашэння стратэгічнай задачы — збліжэння эканомік дзвюх краін на ўзаемавыгаднай аснове. З думкай свайго расійскага калегі пагадзіўся і Сяргей Лінг. Ён выказаў надзею, што наступнае пасяджэнне выканкама, якое намечана правесці 9 снежня ў Мінску, пройдзе ў такім жа канструктыўным рэчышчы.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Яўген Прымакоў з упэўненасцю сказаў, што ў бліжэйшым будучым пройдзе сустрэча прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнкі і Барыса Ельцына. Правядзенне пасяджэння Вышэйшага Савета Саюза не будзе больш адкладвацца. Закранаючы ўзаемаадносіны Беларусі і Расіі з дзяржавамі — удзельніцамі СНД, Яўген Прымакоў падкрэсліў: тут няма ніякага процідастаўлення адзін аднаму. «Беларусь і Расія праходзяць інтэграцыйныя стадыі хутчэй, і калі за намі пойдуць іншыя краіны, мы будзем толькі рады», — сказаў расійскі прэм'ер. А Сяргей Лінг дадаў: «Можна не пагаджацца з нейкімі палітычнымі момантамі, але працэсы, што адбываюцца ў эканоміцы дзвюх нашых краін, пераканаўча гавораць на карысць інтэграцыі. Аб гэтым сведчыць і імклівы рост тавараабароту паміж Беларуссю і Расіяй».

*Масква.*

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*Першае інтэрв'ю на новай пасадзе*

**СЯМЁН ЛІЎШЫЦ:**

## «Мэта — бараніць інтарэсы прадпрымальнікаў і павышаць дабрабыт людзей»



**Пры фарміраванні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу кіраўніком Камісіі па пытаннях эканомікі быў абраны Сямён Ліўшыц. Тады вопыт дырэктара Асіповіцкага завода аўтамабільных агрэгатаў аказаўся вельмі дарэчы. А 14 лістапада гэтага года аўтарытэт гаспадарніка быў у чарговы раз пацверджаны: С. Ліўшыца абралі яшчэ і старшынёй праўлення Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў (БКП). Першае інтэрв'ю на новай пасадзе ён даў «Звяздзе».**

*— Перш за ўсё, Сямён Барысавіч, дазвольце павіншаваць вас з новай пасадай і з новымі абавязкамі. Нагадайце коратка нашым чытачам, што такое Беларуская канфедэрацыя прадпрымальнікаў, і раскажыце, якія функцыі вы будзеце выконваць на новым месцы.*

— Дзякуй. Мне здаецца, няма патрэбы падрабязна расказваць пра канфедэрацыю, паколькі яна была створана зусім нядаўна, і сродкі масавай інфармацыі шырока асвятлялі гэтую падзею. Скажу толькі, што цяпер пад адным дахам аб'ядналіся 16 прадпрымальніцкіх саюзаў і асацыяцый, якія існуюць у Беларусі. У выніку атрымалася аб'яднанне больш чым мільёна грамадзян, якія заняты ў прадпрымальніцкай галіне. Канфедэрацыя створана з мэтай абароны інтарэсаў сваіх членаў, для нармалізацыі адносінаў прадпрымальнікаў з урадам, з прэзідэнцкімі структурамі, з тымі, хто ў нашай дзяржаве прадстаўляе ўладу. У мае ж абавязкі ўваходзіць каардынацыя дзеянняў членаў канфедэрацыі. Але гэта таксама функцыя ўсяго праўлення БКП, куды ўвайшлі па два прадстаўнікі ад кожнага саюза. Як вядома, абраны таксама пяць намеснікаў старшыні праўлення.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*Суботнія гутаркі Веранікі Кудраўцавай*

## Свет стане заложнікам Абу?

*Падобна, што свету прапанаваны чарговы спектакль: тэатр ваенных дзеянняў знаходзіцца на Балканах. Як будуць разгортвацца падзеі там, адназначна не бярэцца прагназіраваць ніхто. Не баяцца толькі сказаць сваё слова астролагі.*

**— У адным са сваіх інтэрв'ю нашай газеце, характарызуючы Біла Клінтана, Вы сказалі, што ў гісторыю сваёй краіны ён можа ўвайсці як прэзідэнт, які нядрэнна праводзіў ваенныя дзеянні, адрозніваўся агрэсіўнай знешняй палітыкай.**

— Падобна, што ў прэзідэнта Амерыкі ў чарговы раз здалі нервы з-за любоўных разборак і ён так рашуча замахнуўся на Косава. Неўзабаве амерыканскі прэзідэнт можа прымерыць калі не лаўры героя-палюбоўніка, то лаўры героя-пераможцы. Але ў любым выпадку гісторыю з Монікай у Амерыцы доўга не забудуць, і ўваход Клінтана ў 1999 год як прэзідэнта застаецца сумнiўным.

**— Як будуць разгортвацца падзеі на Балканах?**

— У лютым наступнага года сітуацыя абвострыцца. Не будзе простых і адназначных адказаў на пытанне пра аўтаномію гэтага краю. Не выключана, што ў канфлікт будуць уцягнуты Грэцыя і Турцыя, якія спрачаюцца з-за Кіпра.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

# УЛЬЯНАЎСК БУДУЦЬ ПРЫБІРАЦЬ ДА КРАСАВІКА

**У апошні дзень знаходжання ў Беларусі дэлегацыі Ульянаўскай вобласці Расіі на чале з губернатарам Юрыем Гарачавым вынікі сустрэч з кіраўніцтвам нашай краіны былі падведзены ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязяў. Канкрэтнае ўвасабленне перамовы атрымалі ў Пагадненні аб супрацоўніцтве паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Адміністрацыяй Ульянаўскай вобласці і ў Пратаколе аб намерах па развіццю гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Іх падпісалі Ю. Гарачаў і міністр знешніх эканамічных сувязяў Беларусі М. Марыніч.**

Па словах кіраўніцтва Ульянаўскай вобласці, падчас візіту дасягнуты дамоўленасці на пастаўку ў Беларусь высакаякасных кварцавых пяскоў для шкловытворчасці, фільтруючых парашкоў для беларускіх бровараў. Запланавана пастаўка ў Паволжа мінскіх трактароў колькасцю 300 штук штогод, сотні кормаўборачных камбайнаў.

Плануецца стварэнне ў Мінску сумеснага прадпрыемства па выпуску аўтамабіляў «УАЗ» на базе аднайменнага завода з расійскага боку і Мінскага маторнага завода і сумеснай вытворчасці прамысловай прадукцыі на базе МТЗ і Ульянаўскага механічнага завода. Дарэчы, прадукцыя МТЗ і ММЗ моцна зацікавіла расіян, таму прадугледжваецца магчымасць адкрыцця ва Ульянаўску пастаяннага прадстаўніцтва гэтых заводаў.

Верагодна, таксама аб'ёмнымі будуць узаемныя пастаўкі харчовых прадуктаў. Размова ідзе пра імпарт з Расіі мукі, круп, цукру і іншых тавараў. Адначасова прапрацоўваецца магчымасць адкрыцця ў Мінску прадстаўніцтва ААТ «Харчаванне», а ва Ульянаўску — Гандлёвага дома Рэспублікі Беларусь.

Ёсць дамоўленасці і ў галіне ваеннага супрацоўніцтва.

Удзельнікі сустрэчы паведамілі, што ва Ульянаўску чакаюць візіту у адказ. Паездка прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі на радзіму Леніна намечана на наступны год, на пярэдадзень чарговай гадавіны з дня нараджэння правадыра пралетарыяту. Дарэчы, паводле слоў Ю. Гарачава, да гэтага часу ва Ульянаўску збіраюцца, узяўшы на ўзбраенне мінскі шлях, «падчысціць» горад, прывесці яго ў адпаведны знешні выгляд. Да прыезду А. Лукашэнкі, відаць, будзе прымеркавана і выстава прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



# «ЗВЯЗДА» ПРАПАНАВАЛА «МІРАВУЮ»

Тое, што нас чытаюць людзі з рознымі светапоглядамі яшчэ раз падкрэсліла нядаўняя сустрэча ў «Звяздзе». Шчаслівыя ўладальнікі прызоў апошняй латарэі Жорж Дзмітрыевіч Комач і Мікалай Рыгоравіч Рудзеня шануюць і любяць мову. Менавіта гэта любоў і паслужыла прычынай падпіскі на нашу газету.

Жорж Дзмітрыевіч — пенсіянер, працуе слесарам у цэху тавараў народнага спажывання БелАЗаў у Жодзіне, Мікалай Рыгоравіч выкладае ў Драгаўскай школе-садзе, што ў Салігорскім раёне. Абодва любяць Беларусь, але ў ацэнцы сённяшняй палітычнай сітуацыі прытрымліваюцца процілеглых поглядаў. Падчас уручэння прызоў ледзь не разгарэлася спрэчка. Годзе, сябры! Паглядзіце на сябе. Мы ж адна кроў, адна нацыя. Дарэчы, самая талерантная ў свеце. І ўвогуле, ці не занадта мы запалітызаваныя?

Вязіце радасныя здабыткі дамоў, радуйце імі блізкіх. Хай Бог дае ім моц і сілу. А разам будзьма яднацца. Каб выжыць.

**Віктар ХУРСІК.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# КІРАЎНІК АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА СУСТРЭЎСЯ Ў МАСКВЕ З ШЭРАГАМ КІРАЎНІКОЎ РАСІЙСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Шэраг сустрэч з кіраўнікамі структур выканаўчай і заканадаўчай улады Расійскай Федэрацыі правёў 14-15 кастрычніка кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта нашай краіны Міхаіл Мясніковіч, які знаходзіцца ў суседняй дзяржаве з рабочым візітам.

У ходзе перагавораў з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Расіі Валянцінам Юмашавым, першымі намеснікамі Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі Вадзімам Густавым і Юрыем Маслюковым, старшынёй Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі Віктарам Герашчанкам і Старшынёй Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу РФ Генадзем Селязнёвым былі абмеркаваны некаторыя аспекты беларуска-расійскіх адносін, а таксама іншыя пытанні, якія маюць узаемную цікавасць.

Былі дасягнуты дамоўленасці аб далейшым развіцці інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй. Абмяркоўваліся і пытанні, разгледзець якія плануецца на маючым адбыцца 16 кастрычніка пасяджэнні Выканаўчага Камітэта Саюза Беларусі і Расіі.

**БЕЛТА.**

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

## Аб індэксе цэн вытворцаў на прамысловую прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння за верасень 1998 года

**Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў верасні 1998 года ў параўнанні са жніўнем 1998 года індэкс цэн вытворцаў на прамысловую прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 111,3 працэнта, са снежнем 1997 года — 152,6, са снежнем 1996 года — 297,8 працэнта.**

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

## Аб індэксе спажывецкіх цэн за верасень 1998 года

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што за верасень 1998 года індэкс спажывецкіх цэн у параўнанні са жніўнем 1998 года склаў 117,6 працэнта, са студзенем 1998 года — 147,3, са снежнем 1997 года — 153 працэнты.

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 495

**Аб вызваленні Я. К. Вайтовіча ад пасады Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы**

Вызваліць Вайтовіча Яўгена Канстанцінавіча ад пасады Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы ў сувязі з пераводам на іншую работу.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*15 кастрычніка 1998 г.*
*г. Мінск.*

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 496

**Аб назначэнні М. У. Лузгіна членам праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь**

У адпаведнасці з пунктам 9 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь назначыць Лузгіна Мікалая Уладзіміравіча членам праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь з наступным узгадненнем яго назначэння з Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*15 кастрычніка 1998 г.*
*г. Мінск.*

# «МЭТА — БАРАНІЦЬ ІНТАРЭСЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ І ПАВЫШАЦЬ ДАБРАБЫТ ЛЮДЗЕЙ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**— Вядома, што ўлады «благаславілі» стварэнне БКП. Але ў той жа час напрошваецца пытанне: наколькі паслядоўным з'яўляюцца гэты крок і, скажам, прыпыненне рэгістрацыі гаспадарчых суб'ектаў? Ці можна сказаць, што БКП якраз і будзе займацца абаронай прадпрымальнікаў ад дзяржавы?**

— Мы павіны прызнаць, што сёння існуе шмат супярэчнасцяў. І дзяржава павінна выпраўляць іх, у першую чаргу ліквідаваць тыя перагібы, што існуюць на месцах. На з'ездзе шмат гаварылася пра тое, што ўсякія ведамасныя распараджэнні, загады, пастановы тых жа аблвыканкамаў, згодна з якімі забараняецца водпуск тавараў камерцыйным структурам, не выдзяляюцца фонды на сыравіну і матэрыялы, як дзяржаўным прадпрыемствам, не стасуюцца з Канстытуцыяй, паводле якой усе суб'екты гаспадарання незалежна ад формы ўласнасці павінны мець роўныя ўмовы. Гэтыя пытанні сёння вельмі важныя.

А прычына такога становішча хаваецца ў агульных адносінах да прадпрымальнікаў як з боку ўладаў, так і з боку насельніцтва. Трэба шчыра сказаць: калі мы не заваюем аўтарытэт, калі мы не дакажам, што прадпрымальнікі прыносяць дзяржаве карысць, — грош цана нашым намаганням. Я яшчэ падчас парламенцкіх слуханняў па развіццю прадпрымальніцтва ў Палаце прадстаўнікоў казаў, што імідж свой падарвалі самі прадпрымальнікі. Мы не можам сказаць, што ўсё ў гэтых структурах ажыццяўляецца ідэальна шчыра, што ўсе працуюць сумленна. Гэта далёка не так. І калі мне кажуць, напрыклад, што бізнесменаў замучылі праверкамі, то не трэба забываць, што самі ж прадпрымальнікі гэтых кантралёраў і «прыкармілі». Бо тыя ж з большым задавальненнем пойдуць правяраць кааператыў, чым дзяржаўны завод. І ўсе разумеюць і прычыны, і сітуацыю. У выніку з гэтымі праверкамі атрымліваецца сапраўды бязглуздзіца. Я не ўпэўнены, што кантралюючыя органы будуць строга прытрымлівацца таго, што сказаў прэзідэнт: павінна быць не больш за дзве праверкі на год. Я не кажу, што кантроль павінен адсутнічаць, але ён павінен быць разумным.

І аб адносінах насельніцтва. Яго можна зразумець, асабліва ў такія крызісныя моманты, як зараз, калі цэны дасягаюць астранамічных лічбаў. Зразумела, прадпрымальнікі, якія арыентуюцца на рынкавы курс долара, прадаюць імпартныя тавары з такім разлікам, каб не абанкруціцца. Але пад гэтую марку завышаюцца цэны і на айчынную прадукцыю. Ці сумленна гэта?..

Што да рэгістрацыі, то на сённяшні дзень няма іншага механізму адсеву «фірмаў-аднадзёнак», якія «перапампоўваюць» грошы. Таму дзяржава і вымушана праводзіць час ад часу падобныя рэвізіі. Папракнуць яе ў гэтым нельга, але ў той жа час бываюць і спрэчныя моманты. Напрыклад, мне здаецца, трэба было б закончыць працэс рэгістрацыі тых суб'ектаў, якія яшчэ паспелі падаць дакументы на рэгістрацыю. І я думаю, што прэзідэнт не збіраўся паставіць заслону на шляху гэтых фірмаў, проста, мабыць, клеркі ў адпаведным міністэрстве, як заўсёды, перастрахаваліся. Таму і гэтае пытанне прыйдзецца вырашаць Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў. Так будзе больш апаратыўна і эфектыўна, чым калі кожны саюз паасобку будзе змагацца за свае правы.

**— Наогул, стварэнне БКП — гэта ў нейкім сэнсе спроба запрэгчы ў адзін воз каня і «трепетную лань», паколькі настроі ў прадпрымальніцкіх структурах бываюць вельмі розныя. Ці ўдасца ўтрымаць у адзінстве такую арганізацыю?**

— Сапраўды, адносіны паміж прадпрымальнікамі іншы раз застаюцца далёка не братэрскімі. Таму, мяркую, канфедэрацыя будзе імкнуцца стварыць такія ўмовы, каб бізнесмены забыліся на ўнутраныя рознагалоссі і ўспомнілі, што павінны будаваць узаемаадносіны на аснове супрацоўніцтва, партнёрства, падтрымкі адзін аднаго. Калі гэта ўдасца зрабіць, то я буду думаць, што спроба была не дарэмнай.

**— Тое, што кіраўніком канфедэрацыі стаў старшыня парламенцкай камісіі па эканоміцы — гэта, на вашу думку, можа быць сведчаннем лабіравання інтарэсаў прадпрымальнікаў у парламенце?**

— Ніхто не аспрэчвае таго, што маё абранне было не выпадковым. Так, ідзе лабіраванне ў інтарэсах дзяржавы. Памятаеце знакамітае: «Што выгадна «Форду», тое выгадна Амерыцы»? Мы ж чамусьці разумеем слова «лабіраванне» ў літаральным сэнсе: адразу з'яўляюцца асацыяцыі з закуліснымі гульнямі, карупцыяй, хабарам... Па-другое, калі мне прапаноўвалі пасаду, то я крыху павагаўся, а потым сказаў: ведаеце, хлопцы, я нікому з вас нічога не павінен. Так, у мяне няма асабістага бізнесу, сваёй справы. А тое, што я старшыня камісіі і адначасова на грамадскіх пачатках стаў кіраўніком праўлення БКП, стане прыносіць толькі карысць як дзяржаве, так і прадпрымальнікам.

**— Дарэчы, на якасці вашай парламенцкай дзейнасці новыя абавязкі ніякім чынам не адаб'юцца?**

— Калі нехта думае, што цяпер Ліўшыц будзе шукаць кожную літару ці коску, то няхай ведае, што я і раней вельмі ўважліва працаваў над усімі законапраектамі, якія атрымлівала камісія, разглядаў іх праз прызму інтарэсаў дзяржавы. Такім чынам, у маёй парламенцкай дзейнасці абсалютна нічога не зменіцца. Хіба толькі праца стане шырэйшай. Гэта будзе ўжо не толькі заканатворчая дзейнасць, але і сустрэчы з выканаўчай уладай, спробы расказаць ёй пра тыя праблемы, якія турбуюць прадпрымальнікаў, даказаць, што гэтыя праблемы вырашальныя і іх неабходна вырашаць тэрмінова.

**— Абараняючы інтарэсы прадпрымальнікаў, БКП будзе зважаць на інтарэсы наёмных рабочых, якія працуюць у гэтых бізнесменаў? Як, напрыклад, вы будзеце будаваць адносіны з прафсаюзамі?**

— Працуючы ў парламенце, мы стварылі з прафсаюзамі цесную, трывалую сувязь. Магчыма, гэта не было відаць знешне, але кожны законапраект, які датычыўся сферы вытворчасці, працоўных адносін, мы абавязкова накіроўвалі прафсаюзам. Атрымлівалі ад іх заўвагі, прапановы, папраўкі, з аднымі пагаджаліся, другіх не прымалі. Словам, быў нармальны дыялог. Мяркую, такая ж форма ўзаемаадносін будзе і паміж прафсаюзамі і Беларускай канфедэрацыяй прадпрымальнікаў. У нас жа, зрэшты, мэты агульныя: прымусіць нашу прамысловасць працаваць, даць людзям працу, добрую зарплату, павышаць іх дабрабыт.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# КАМЕНТАРЫЙ АБ ПАРАДКУ ІНДЭКСАЦЫІ ДАХОДАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА ЗА ВЕРАСЕНЬ 1998 ГОДА

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за верасень 1998 г. Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь паведамляе, што, паколькі індэкс спажывецкіх цэн у верасні, вылічаны нарастаючым падрахункам к ліпеню г. г., перавысіў пяціпрацэнтны парог і склаў 122,1 працэнта, грашовыя даходы насельніцтва за верасень, што атрымліваюць з бюджэтных крыніц (дапамогі, стыпендыі, заработная плата і грашовае забеспячэнне), а таксама сумы кампенсацыі ўрону, прычыненага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца на 47,3 працэнта, разлічаныя нарастаючым падрахункам к студзеню г. г.

Індэксацыя ажыццяўляецца з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт прыросту спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 500.000 рублёў — 1 працэнт, ад 500.001 да 1.000.000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходу, якая перавышае 1.000.000 рублёў, не індэксуецца.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі», а таксама Законам Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» і ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» індэксацыя сацыяльных пенсій у верасні г. г. праведзена ў выглядзе аднаразовага перагляду іх памераў.

Грашовыя кампенсацыі, прадугледжаныя пастановамі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 05.01.1995 г. № 7 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян» і ад 28.02.1995 г. № 106 «Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва», не індэксуюцца.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, пакрыццё страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

***КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА «ЗВЯЗДЫ»***

# МАТЧ УЭЛЬС—БЕЛАРУСЬ АТРЫМАЎСЯ АЗАРТНЫМ, БЕСКАМПРАМІСНЫМ І ЦІКАВЫМ

***Леанід ГАРАЙ, заслужаны трэнер РБ аб выступленні нацыянальнай зборнай Беларусі ва Уэльсе***

Безумоўна, нечаканая перамога валійскіх футбалістаў на выездзе супраць датчан дала ім дадатковы зарад. Хоць трэба ўлічваць, што ў камандзе гаспадароў адсутнічалі вядучыя ігракі зборнай — Гігс, Хартсан, Спід. Яшчэ перад сустрэчай настаўнік валійцаў Бобі Гулд сказаў, што перамога ў Капенгагене зусім не азначае, што яго падначаленыя будуць у эйфарыі падчас гульні з беларусамі. Так яно і сталася. Напачатку нашы кантралявалі сітуацыю, хоць было бачна, што гаспадары наўмысна ўступілі ініцыятыву і стварылася бачнасць перавагі гасцей. Зборная Уэльса выбрала тактыку чакання: прыцягнуць беларусаў на сваю палову і контратакаваць. Першы тайм па такому сцэнарыю і прайшоў, а вось другі — зусім па-іншаму іхняму раскладу. Не ведаю, ці то нашы хлопцы спужаліся, што выйшлі наперад, і самі аддалі гульню, ці то ім проста не хапіла фізічнай падрыхтоўкі.

Па вялікаму ж рахунку, уэльская зборная нічога звышнатуральнага не паказала: чыста англійскі стыль — «навес» на штрафную і ўдары галавой. Пайшла суматоха, парушылася гульнявая тактыка, і як вынік — два галы з вуглавых.

Мне здаецца, што на будучае трэнерскаму штабу каманды трэба ўдзяліць больш увагі псіхалагічнай падрыхтоўцы кожнага футбаліста, навесці парадак у абарончых радах, узмацніць атаку.

Мы ўсе выдатна разумеем, што футбол можна паказваць прыгожы, а вынік усё ж на першым месцы.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ПАВЫШАЮЦЦА МЫТНЫЯ ПОШЛІНЫ НА ВЫВАЗ ПРАДУКТАЎ ХАРЧАВАННЯ

«Абаронай літоўскіх вытворцаў» і «спробай адмежавацца ад расійскага крызісу» называе газета «Летувас айдас» рашэнне ўрада Літвы аб часовым павышэнні мытных пошлін на імпартуемыя сельгасвырабы, паведамляе інфармацыйнае агенцтва ЭЛЬТА. На малако і малочныя прадукты пошліны павысяцца з 20 да 35 працэнтаў, масла — з 45 да 60, яйкі — з 30 да 40, ялавічыну і мяса птушкі — на 50 працэнтаў, цукар — з 35 да 87 працэнтаў.

Мытныя пошліны не будуць уведзены для краін, з якімі ў Літвы падпісаны дагавор аб свабодным гандлі.

Паралельна з мерамі па абароне свайго рынку Літва актыўна шукае пакупнікоў для лішкаў айчыннай сельгаспрадукцыі сярод краін СНД.

**БЕЛТА.**

**Сёння наша гутарка з жонкай Анатоля Вечара (вядучага тэлевізійнай перадачы «Акалада», у мінулым вядучага беларускай радыёстанцыі) Аксанай, якая таксама не адстае ад мужа і на Беларускім тэлебачанні вядзе вядомы «Хіт-парад».**



## Свет стане заложнікам Абу?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— Ісламскі рух будзе набіраць моц?**

— Пад зялёным сцягам ісламу ў жніўні 1999 года верагодныя значныя ваенныя дзеянні. Правадыр сіл зла можа і не быць палітыкам, буйной фігурай. Прэтэндэнтам на ролю першага можа стаць дробны ігрок у нейкім будучым канфлікце, які-небудзь нязначны блізкаўсходні ці паўночнаафрыканскі тэрарыст, які захапіў у свае рукі такую колькасць зброі масавага паражэння, што хопіць, каб ператварыць увесь свет у свайго заложніка. Згодна з прадказаннямі Настрадамуса, падчас трэцяй сусветнай вайны галоўнай сілай будуць атамныя субмарыны. У імені монстра, зноў жа ў адпаведнасці з прадказаннямі вядомага прарока, утрымліваецца слова Абу.

**— Куды накіруе зброю наваспечаны «ўладар свету»?**

— Гэтым летам тэрарыстычныя акты ўжо мелі месца ў ЗША. Баевікі Абу наўрад ці адмовяцца ад падобнай дзейнасці. Не выпадкова службы бяспекі ўсіх краін свету пачалі прымаць меры перасцярогі. Але найперш, падобна, гэта трэба зрабіць дзяржавам Міжземнаморскага ўзбярэжжа Еўропы, а таксама Балканскім краінам. На хрысціянскую Еўропу, напэўна, накіруецца люты магаметанскі правадыр, прадракаў Настрадамус. Хіба не папярэджаннем гучаць радкі «Цэнтурый»: На паўднёвых Балканах і па ўсёй Грэцыі жудасны голад і чума з-за ўяўнага пылу (радыяцыі?). Гэта будзе працягвацца 9 месяцаў на ўсім паўвостраве (Італія), а таксама на Пелапанесе (Грэцыя).

Так што Грэцыя і Італія могуць аказацца ахвярамі ў будучых канфліктах.

**— Беларусі ў гэтым сэнсе нічога не пагражае?**

— Беларусь і Расія будуць змагацца з праблемамі эканамічнага характару.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

**Заявы на курсы навучання астралогіі ў Веранікі Кудраўцавай з указаннем кантактнага тэлефона прымаюцца па адрасу: 220123, г. Мінск, а/я 24.**

*Я і мая сям'я*

## Аксана ВЕЧАР:

# «ЁН АДБІЎ МЯНЕ Ў СВАЙГО СЯБРА»



**— Аксана, ты памятаеш момант вашага знаёмства?**

— Усё пачалося дзевяць гадоў таму, са знаёмства з Толіным сябрам, які, кажучы банальнай мовай, адбіў мяне ў яго. Я была студэнткай беларускага інстытута культуры, а ён ужо павінен быў яго скончыць. Да таго часу ён быў вольным маладым чалавекам, які скасаваў шлюб са сваёй першай жонкай.

**— Ты не была пакрыўджаная тым, што стала другой жонкай? Магла б быць і трэцяя і чацвёртая?**

— Па праўдзе кажучы, на першай яго жонцы я адточваю свой гумар і ўсім кажу, што яна была маленькая і тоўстая. Першая жонка Вечара была яшчэ і вышэйшым матэматыкам і праграмістам. Не ведаю, як яны сышліся і былі мужам і жонкай. Напэўна, яна не змагла знайсці тэарэму кахання, але яе знайшла я.

**— У вас было каханне з першага погляду?**

— Не памятаю, колькі там было поглядаў. Але дзяўчынцы ў маім узросце, якая толькі адарвалася ад мамінай спадніцы, патрэбны новы гаспадар, вось я яго і знайшла.

Неяк адчыняюцца дзверы майго інстытута і ўваходзіць ён, мой каханы. Я кідаюся яму на шыю і пачынаю скардзіцца на дрэнны лёс, а ён тым часам зрабіў мне прапанову выйсці за яго замуж. І, канешне ж, я згадзілася і прыняла гэту прапанову.

**— А як маці ставілася да яго прапановы?**

— Яна была ў шоку. Ёй былі незразумелымі словы 18-гадовай дзяўчыны, якая прывяла з сабой невядомага барадатага дзядзьку: «Матуля, а я ўжо аднесла заяву ў ЗАГС!» Вы ўяўляеце яе становішча? Але з цягам часу яна прывыкла да яго і зараз робіць яму больш падарункаў, чым мне.

**— А ў цябе ў жыцці быў другі мужчына?**

— Гэта дзіцячая гісторыя. У мяне быў любімы мужчына, які быў афіцэрам і ў якога я была закаханая па самыя вушы. Я ўжо нават спадзявалася быць яго жонкай, але неяк ён прыехаў да мяне і сказаў: «Аксана, я жанюся!» Гэта было для мяне вялікім ударам. І на вяселле не запрасіў (смяецца), але я на яго не крыўдую.

**— Ці былі ў вас з Вечарам сур'ёзныя канфлікты?**

— Быў адзін выпадак, калі ў Мінск прыехала дзяўчына Лена, з якой мы разам вучыліся. Мы гулялі па горадзе ўтраіх — наведалі рэстаран, хадзілі па парках, елі марожанае. Але так здарылася, што ўся ўвага была скіравана на маю сяброўку. Вось тады я вельмі яго прыраўнавала і думала, што ўсё скончана. Выйшла наадварот...

Бываюць і зараз моманты, калі я яму кажу, што з ім развядуся. Але разумею, што сям'я ёсць сям'я.

**— Дарэчы, ваша сям'я гэта...**

— Гэта наша дачушка Паліна, адзінае наша суцяшэнне. Тое, дзеля каго мы жывём і павінны жыць. Мы столькі гадоў з маім мужам разам, што некаторыя пытаюць: «Ці не зажыліся вы разам?» Наша Паліна звязвае нас па руках і нагах.

**— Якія падарункі ты атрымліваеш ад Вечара на 8 Сакавіка?**

— Я не ведаю, ці ўспамінае ён увогуле пра гэта свята. Мне заўсёды прыходзіцца весці падрыхтоўчую работу да такога дня. Самае крыўднае, што Толя не дорыць мне падарункаў так: спачатку схаваў, потым зрабіў сюрпрыз. Усё інакш. Мы прыходзім у магазін, я паказваю яму, што хачу купіць, а ён разлічваецца з касірам.

**— А кветкі хоць дорыць?**

— Кветкі дорыць, але таксама не так, як прынята іх дарыць. У апошні раз мы з ім ішлі па падземным пераходзе, і ён кажа: «Хадзем, я табе кветкі куплю!» Яму не хапіла некалькіх тысяч, і мне прыйшлося яму іх дакладаць, каб купіць гэтых сем руж. Дарэчы, вясёлая гісторыя. У гэты дзень саліст «Нейра Дзюбеля» Аляксандр Кулінковіч запрасіў нас да сябе. Мы ловім таксі і едзем да яго. Калі падымаліся па лесвіцы, Вечар сказаў: «Аксана, ён жа падумае, што кветкі гэтыя мы купілі для яго, што рабіць?» І прыдумаў гісторыю пра майго паклонніка, які бачыў мяне ў кліпе «Паляўнічы і Сайгак» і падараваў мне кветкі. Маўляў, і яму будзе прыемна, і табе не крыўдна. Званок у дзверы. На парозе гаспадар: «Лен, паглядзі, а яны з кветкамі!»— звяртаецца да сваёй дзяўчыны. І тут Вечар пачынае расказваць гісторыю, на што Кулінковіч: «Зноў ты выдумаў нейкую гісторыю». Але кветкі там так і засталіся.

**— Вы не ходзіце зараз па рэстаранах, як гэта было ў той час?**

— Тры месяцы таму ў яго з'явілася ідэя наведаць кітайскі рэстаран. На што я адказваю: «Толя, калі хочаш — ідзі, а я не збіраюся там есці гэтымі палачкамі!» А ўвогуле, мы па рэстаранах даўно не ходзім, як прынята хадзіць: прыгожа апрануцца, зрабіць макіяж. У нас гэта атрымліваецца спантанна, з якой-небудзь кампаніяй. Апошні раз гэта быў рэстаран «Погребок» у кампаніі «Нейра Дзюбеля».

**— Ты хацела б вярнуць момант вашага знаёмства з Вечарам?**

— Навошта? Жыццё нам адкрывае шмат новага і нязведанага. І чым далей, тым лепей.

**— Шчасця вашаму дому і дзякуй за інтэрв'ю!**

**Вольга РАМАНЮК.**

# «ДДТ»:
## *«Мы ніколі не спыняемся на дасягнутым»*



**Новая канцэртная праграма «Свет нумар нуль» групы «ДДТ» рыхтавалася на працягу апошніх паўтара года і сваім незвычайным сцэнічным рашэннем павінна была вывесці групу на больш прафесійны ўзровень, што і атрымалася. Чатыры трэйлеры з апаратурай, 100 кВт гуку, метровы экран над сцэнай — усё гэта было рэалізавана Юрыем Шаўчуком, які завітаў да нас у госці са сваім адзіным канцэртам, які адбудзецца сёння, 17 кастрычніка, у сталічным Палацы спорту.**

Учора ў Цэнтры грамадскіх сувязяў МАЗа Ю. Шаўчук і група «ДДТ» адказвалі на пытанні журналістаў.

**— Юрый Юліянавіч, што гэта за праект «МАЗ-ДДТ»?**

— Дагавор аб сумесным ажыццяўленні праекта «МАЗ-ДДТ» адбыўся ў студзені 1998 года. А ў маі пачалася яго рэалізацыя, калі праходзілі прэм'еры новай праграмы групы «ДДТ» ва Украіне. Стварылі новую праграму «Свет нумар нуль». Але для яе ажыццяўлення патрэбны былі цягачы, каб перавозіць з горада ў горад усю нашу гукавую, светлавую і відэаапаратуру. У Мінску нам прапанавалі беларускія цягачы ад МАЗа, і мы, канешне ж, згадзіліся.

**— Такое ўражанне, што ў Піцеры няма заводаў, якія таксама змаглі б вас праспансіраваць?**

— Так атрымалася, што я напісаў песню пра нялёгкае жыццё «дальнабойшчыкаў» — «Ты не адзін», якая спадабалася дырэкцыі гэтага завода. Памятаю тыя часы, калі мы «аўтастопам» дабіраліся да роднага Піцера на тых самых «Мазах». Песню я пісаў ад чыстага сэрца. Я зразумеў, што мяне аб'ядноўвае з МАЗам і не адмовіўся ад іх прапановы. Не падумайце, што мы займаемся рэкламай, мы проста падтрымліваем вытворчасць гэтага завода. Я атрымаў вялікае задавальненне ад яго: сустрэўся з працоўнымі, што называецца, пагутарыў «за жыццё».

Юрый Шаўчук запрашае сёння сваіх прыхільнікаў на свой трохгадзінны канцэрт «Свет нумар нуль».

**Вольга РАМАНЮК.**

*Звезде и от простых парней из ДДТ! Удачи! 98г.*

# *Хочаш быць прыгожай — будзь ёй!*







**Ужо каторы раз студыя моды Сяргея Нагорнага прапануе сваім гледачам паказ вясельных строяў. Вось і ўчора ў сталічным Доме шлюбаў Кастрычніцкага раёна адбыўся яго чарговы паказ.**

Салон вясельных строяў «Юнона» прадстаўляў сваю новую калекцыю. Людзі, якія прыйшлі на паказ, змаглі пабачыць вялікую колькасць фасонаў не толькі жаночых убораў, але і мужчынскіх шлюбных касцюмаў. Цудоўна выкананыя мадэлі «Глорыя» з «лятаючымі» шыфонавымі рукавамі ў стылі барока, мадэль «Пырскі шампанскага» з крэмавага атласу настолькі добра выглядалі на манекеншчыцах, што, здавалася, сапраўды пачалося вяселле. Каштуюць гэтыя строі ад 16 да 18 мільёнаў.

Але якое ж вяселле без падарункаў? Толькі зараз іх атрымліваюць не нявеста, а гледачы, якія сабраліся ў гэтай зале.

Вячэра на дваіх у рэстаране, карткі на абслугоўванне ў салоне прычосак, наведванне турбасалярыя — усё гэта дасталося вясёлым і энергічным.

**Вольга РАМАНЮК.**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.40 | 18.10 | 10.30 |
| Віцебск – | 7.32 | 17.58 | 10.26 |
| Магілёў – | 7.29 | 17.59 | 10.30 |
| Гомель – | 7.26 | 17.57 | 10.31 |
| Гродна – | 7.56 | 18.23 | 10.27 |
| Брэст – | 7.53 | 18.29 | 10.36 |

**МЕСЯЦ**

***Апошняя квадра 12 кастрычніка.***

**З 3.20 — 27-ыя месяцавыя суткі.**

**Месяц — у сузор'і Дзевы.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Веранікі, Анісіма, Аўсея, Гурыя, Паўла, Пятра, Сцяпана, Уладзіміра**

**К. Малгажаты, Марыі, Віктара, Ігната**

### НАДВОР'Е

**Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па поўначы невялікі дождж. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/сек., месцамі парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 8—10, Магілёве — 9—11, Мінску, Гомелі — 10—12, Гродне — 12—14, Брэсце — 14—16 градусаў вышэй нуля.**

**У наступныя двое сутак: 18-га ўначы — на паўночным захадзе, удзень — на большай частцы тэрыторыі дажджы; 19-га пераважна без ападкаў. Вецер заходні, 5—10 м/сек., 18-га парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература паветра 18-га ўначы — 5—10, удзень — 6—11, па паўднёваму ўсходу — 12—16 градусаў цяпла; 19-га ўначы — мінус 2—плюс 3, удзень — 7—12 градусаў вышэй нуля.**

**КРЫМІНАЛЬНЫ АЎТАБІЗНЕС ПА-РАНЕЙШАМУ ГРЭЕ РУКІ, А НАША ДЗЯРЖАЎНАЯ КАЗНА «ПРАЛЯТАЕ» МІМА МІЛЬЁНАЎ ДОЛАРАЎ**

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

# «ТАЁТА» ад «Рамана Алегавіча»

28 ЛЮТАГА сёлетняга года «Звязда» надрукавала артыкул «Мерседэс» ад «Станіслава Рышардавіча». Нагадаем, што ахвярай гэтай здзелкі стала жыхарка Цюмені. Яна вылажыла кругленькую суму за «казырную» іншамарку, але радавалася нядоўга. Расійскія «даішнікі» даслалі запыт у Гродна і высветлілася, што ўсе дакументы на «Мерседэс-Бенц» — пячаткі, штампы, подпісы службовых асоб — «ліпа». Гэтыя «колы» ў горадзе над Нёманам не рэгістраваліся, а значыць і не здымаліся з уліку. А ранейшы гаспадар аўтамабіля — «Станіслаў Рышардавіч» не жыве на праспекце Карла Маркса па той простай прычыне, што дом пад гэткім нумарам яшчэ не пабудаваны. Да таго ж у гонар заснавальніка навуковага камунізму ў абласным цэнтры назвалі зусім не праспект, а вуліцу.

Калі б размова ішла пра аднаго спрытнюгу, які арудуе на тэрыторыі Беларусі і Расіі, уводзячы ў зман занадта даверлівых пакупнікоў, дык варта было б шырока «растыражаваць» яго прыметы, каб пасадзіць жуліка за краты і тым самым зняць праблему. Але тут мы маем справу не з адным «Станіславам Рышардавічам», а з цэлай сістэмай. Ужо не першы год у Гродзенскай абласной дзяржаўтаінспекцыі пералапачваюць сотні і тысячы запытаў з расійскіх рэгіёнаў па машынах, якія быццам бы мелі нашу «прапіску». Ільвіная доля адказаў — накшталт сітуацыі з вышэйпамянёным «Мерседэсам»: аўтамабіль не рэгістравалі, дакументы падробленыя, а свае сапраўдныя прозвішча і адрас аферыст ні ў ДАІ, ні ў крымінальны вышук, зразумела, не паведаміў.

Рыхтуючы гэты артыкул, карэспандэнт «Звязды» пагутарыў з супрацоўнікам маскоўскай міліцыі, якому не па чутках знаёмы беларуска-расійскі крымінальны аўтабізнес. Вось свежы прыклад. У Маскве хацелі паставіць на ўлік аўтамашыну маркі «Датсун», якая, па дакументах, пераехала з Гродна. Але тут пад гэтым дзяржнумарам значыцца... «Аудзі-100». Што далей у падобных выпадках? Па словах расійскага аператыўніка, калі аферы з боку новага ўладальніка машыны не выяўлена (яе не ўкралі), дык крымінальная справа не ўзбуджаецца. Аднак зарэгістраваць аўтамабіль у ДАІ ўсё роўна немагчыма — патрэбны судовы вердыкт. А гэта даволі праблематычна. Бо ёсць ісцец, які альбо на самай справе добрасумленна пагарэў, альбо выдае сябе за ахвяру нейкага прайдзісвета. А адказчыка, таго ж «Станіслава Рышардавіча» няма. Такая сітуацыя на заканадаўчым узроўні ў Расіі не адрэгулявана, усё перадаецца на меркаванне суддзі. І хіба выключаны тут варыянты, якія не зусім добра «пахнуць»? Прычым не толькі ў судах. Узяць тыя ж запыты ў Беларусь. Ну няўжо нельга «паверыць» дакументам з суседняй краіны (дзе ён, гэты Гродна?) без усякай «валакіты»?

А што датычыцца інтарэсаў беларускага бюджэту, дык яны звязаны не толькі і не столькі з расходамі на апрацоўку расійскіх запытаў. Кожны адмоўны адказ з Прынёманскага краю азначае, што машына, якая трапіла ў Расію па фальшываму тэхпашпарту, не прайшла ў нас мытнага афармлення. А гэта — прамыя страты для дзяржаўнай казны. У цэлым яны вылічаюцца не дзесяткамі, і нават не сотнямі тысяч долараў, а многімі мільёнамі. Такія шалёныя грошы аўтажуллё, само сабой, добраахвотна не ўпусціць. У ход ідуць самыя розныя спосабы, каб легалізаваць аферу. Здаралася, што афіцыйная карэспандэнцыя з Гродна так і не даходзіла па прызначэнню, бо на нейкім этапе яе перахоплівалі. Альбо расійскі адрасат атрымліваў два процілеглыя адказы з Беларусі на свае запыты. Адзін — сапраўдны, з ДАІ. А другі — фіктыўны, у ім поўны ажур. Неяк, праўда, цэлая серыя фальшывак была замацавана пячаткай са словам «аблиспалкам». Але такія праколы ў моўнаўстве здараюцца нячаста. Апошнім часам Гродзенская абласная дзяржаўтаінспекцыя выкарыстоўвае ў кантактах з Расіяй спецпошту. Гэта патрабуе дадатковых, вельмі значных расходаў. Затое ёсць упэўненасць, што дзялкі пісьмо не перахопяць. Але тут здараецца іншае. Ужо некалькі разоў спецпошта вяртала карэспандэнцыю ў Гродна, бо расійскага органа па ўказанаму адрасу... не існуе. Атрымліваецца, што запыт дасылаў ценявы свет з той мэтай, каб інфармацыя не прайшла па афіцыйных каналах.

Як і восем месяцаў таму, калі «Звязда» расказвала пра «Станіслава Рышардавіча» і яго калег па крымінальнаму аўтабізнесу, у Гродзенскай абласной ДАІ хапае работы камп'ютэрам. Маштабы беларуска-расійскай перапіскі, праўда, крыху і скараціліся, бо пакупнікі з Расіі, магчыма, ужо навучаны горкім вопытам і сталі менш давяраць прадаўцам машын з так званай беларускай рэгістрацыяй — больш карыстаюцца прыбалтыйскім варыянтам. Тым не менш, звыш 11 тысяч запытаў гэта не жартачкі. Іх праверка выявіла амаль 5 тысяч аўтамабіляў, якія не прайшлі мытнага афармлення і не рэгістраваліся ў Гродне. Прыкладна 4 мільёны долараў наш бюджэт не атрымаў толькі зыходзячы з сярэдняга кошту «растаможкі» — скажам, 800 долараў пры мінімальнай пошліне 0,3 ЭКЮ за 1 куб. см аб'ёму рухавіка. Хаця для большасці гэтых, як правіла, прэстыжных і не надта патрыманых альбо зусім навюткіх «колаў» расцэнкі значна вышэйшыя.

...Каб адшукаць узоры «крымінальна-мастацкай» творчасці сярод вялізнага стоса перапіскі, намесніку начальніка Гродзенскай абласной ДАІ Казіміру Дамблеўскаму спатрэбіліся лічаныя секунды. Літаральна першыя ж паперы былі якраз па тэме. Пасведчанне аб рэгістрацыі аўтамабіля «Таёта Ленд Крузер Прадо» 1998 года выпуску быццам бы належала Раману Алегавічу Таўрову. Джып «зняты з уліку», ёсць «даведка-рахунак» аб яго продажы. Аднак пазнаёміцца з «Раманам Алегавічам» немагчыма, бо ён «пражывае» ў Цэнтральным раёне, якога ў Гродне няма. Хутчэй за ўсё, фальшыўку «зляпалі» за межамі горада. А вось вуліца Курчатава ў абласным цэнтры ёсць. Ды толькі дарэмна шукаць у адрасным бюро звесткі пра «Алега Антонавіча Залатаноса», а ў ДАІ — пра яго пяцігадовы «Нісан Максіма». Мяркуючы па марках і ўзросту аўтамабіляў, «крутыя» хлопцы на дробязі не разменьваюцца. І складваецца ўражанне, што яны абараняюць свае інтарэсы куды больш упарта, чым наша дзяржава свае. Заўтра чарговы дзялок пракруціць чарговы «фокус». І зноў гродзенскія «даішнікі» будуць губляць час і сродкі на канстатацыю аферы. Аднак мытнымі плацяжамі ад гэтага дзяржаўная казна ўжо не папоўніцца. Трэба змагацца не з вынікам, а з прычынай.

На думку Казіміра Дамблеўскага, спосаб тут адзін: жорсткі кантроль за ўвозам на беларуска-расійскую мытную тэрыторыю аўтамабіляў і іх мытным афармленнем. Згодны з гэтым і намеснік начальніка Гродзенскай рэгіянальнай мытні Алег Кудрашоў. Але ў тым, што на практыцы для грамадзян Беларусі, як вядома, уведзена аплата пошліны непасрэдна на пагранічным пераходзе, ёсць пэўны парадак. Расіяне ж павінны плаціць за «растаможку» дома. Яны пакідаюць нашым мытнікам дэкларацыю, і далей — шукай ветру ў полі, паколькі камп'ютэрны ўлік легкавікоў у тых жа «Брузгах» на польска-беларускай мяжы не наладжаны. А дэкларацыя — гэта яшчэ не кантроль за мытным афармленнем машыны. Па-першае, яна захоўваецца не вечна. А па-другое, адшукаць патрэбныя звесткі, скажам, праз паўгода, сярод папяровага валу — яшчэ якая праблема. Відавочна, што пры такой сістэме ёсць «хлеб» не толькі для аферыстаў з суседняй краіны, але і для беларускіх крымінальных структур, якія выкарыстоўваюць грамадзян Расіі.

Алег Кудрашоў лічыць, што адзін з варыянтаў кантролю — гэта фінансавыя гарантыі, якія б браліся з расіян на беларускай мытні з наступным пераводам грошай у Маскву ці Смаленск, калі аўтамабіль даехаў па прызначэнню, а не «растварыўся» на неабсяжнай прасторы Расіі. Аднак пагаднення аб размеркаванні мытных плацяжоў паміж нашымі краінамі няма. Акрамя таго, у нас розныя падыходы да фарміравання ставкі гэтых плацяжоў.

Карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся, што думае на гэты конт Аляксандр Дабрадушанка, супрацоўнік прадстаўніцтва мытнай службы Расіі, які працуе ў Гродне. Ён перакананы, што ўсё павінна пачынацца з дакладнай інфармацыі. І менавіта ў яе адсутнасці — галоўная прычына нашых агульных праблем. Неабходны электронны ўлік легкавых аўтамабіляў, якія праз беларускую мытню накіроўваюцца ў Расію. Гэтыя звесткі можна будзе паведаміць расійскім мытнікам, вызначыўшы тэрмін дастаўкі транспартнага сродку ў той ці іншы рэгіён. Парушана гэтае патрабаванне — вядома, каго шукаць. І сапраўды, чым адрозніваецца «фура» з мэбляй ад такога тавару, як апошнія мадэлі «БМВ» ці «Мерседэса»?

На гэтым паставім кропку. Спадзяёмся, што ў наступным артыкуле на гэтую тэму мы раскажам не пра тое, што варта было б зрабіць, а пра тое, што робяць кампетэнтныя дзяржаўныя органы, каб не жыравалі «Станіславы Рышардавічы» і «Раманы Алегавічы», а наш бюджэт атрымліваў «жывыя» грошы.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*ЗДАРЭННІ*

## АДРАЗУ СЕМ НЯШЧАСЦЯЎ

**У мінулую суботу на Індурскай шашы ў Гродне, непадалёк ад рэчавага рынку «Паўднёвы», здарылася аварыя, у выніку якой сутыкнуліся адразу сем легкавікоў. Дапамогі медыкаў вадзіцелям і пасажырам не спатрэбілася. А вось машыны пашкоджаны сур'ёзна, іх рамонт вырьецца ў немалыя грошыкі.**

Раніцай, і асабліва ў выхадныя, гэты чатырохкіламетровы ўчастак дарогі бяспечней пераадольваць пехатой, бо за рулём можна не толькі не ўкласціся ў паўгадзіны, але і трапіць у аварыйную сітуацыю. Дарога яўна вузкаватая для вялізнага транспартнага патоку. Па разліках дзяржаўтаінспекцыі, у гадзіну «пік» тут рухаецца каля 2,5 тысячы аўтамабіляў пры рэальнай прапускной здольнасці не больш як 1600. І нават акуратны вадзіцель, вытрымліваючы неабходную дыстанцыю з машынай наперадзе, не гарантаваны ад няшчасця ззаду. Альбо з абочыны, якая многімі вадзіцелямі выкарыстоўваецца як другі рад.

Суботняе здарэнне — далёка не першае на пад'ездзе да рэчавага рынку. У свой час, выбіраючы для яго месца, мала думалі пра ўмовы дарожнага руху, адклалі відавочную праблему «на потым». Некалькі гадоў таму падрыхтавалі праектную дакументацыю на расшырэнне гэтага ўчастка дарогі. Прадугледжана ажно 6 палос з арганізацыяй тралейбуснага руху. Аднак, па інфармацыі з аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі гарвыканкама, у бліжэйшы час у гэтым накірунку нічога не «свеціць». Прычына банальная: няма грошай.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

**Пакуль мужыкі выпіваюць...**

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# КУХОННАЯ БОЙНЯ ПАД ГРЫФАМ «ЗВЫЧАЙНА»

«Падсудная віну сваю прызнала часткова...» Гэтак дакладна, проста і ясна малююць трагедыі чалавечых лёсаў скупыя радкі судовых пратаколаў. Расказваюць, што ў зале суда яна проста плакала, плакала моўчкі, плакала ўголас, плакала, калі адказвала на пытанні. Яна не верыла, не магла зразумець ані сябе, ані тых успамінаў, што адбіліся ў яе памяці быццам кінастужка з брудным, нізкаякасным трылерам, які зноўку і зноўку прымушалі пракручваць следчыя...

З часу вынясення прыгавору Аліне Вашковай мінула ўжо некалькі месяцаў, але супрацоўніцы суда Цэнтральнага раёна Мінска дасюль не могуць узгадваць гэтую справу без дрыжыкаў. Што прымусіла пажылую ўжо хатнюю гаспадыню, якую ўсе суседзі ў адзін голас назвалі «разумнай, вельмі добрай, ветлівай, мілай і прыемнай жанчынай», узняць руку на чалавека, з якім разам, здавалася б, у міры і згодзе быў пражыты дваццаць адзін год, выгадаваны добры сын — гонар бацькоў, студэнт універсітэта? Што прывяло кабету да жорсткай расправы над уласным мужам, чалавекам, якога, нягледзячы на столькі праведзенага разам часу, яна, па ўласнаму яе прызнанню, моцна кахала, і, у рэшце рэшт, над карміцелем сям'і ад якога непрацуючая Аліна і студэнт Алег залежалі цалкам і поўнасцю?

«Звычайная сям'я,» — казалі суседзі на пытанні следчых. «Звычайны мужык, нармальны чалавек», — казалі пра мужа Аліны, Генадзя Вашкова, у двары. «Звычайнае бытавое забойства», — дадалі пазней спрактыкаваныя юрысты. «Звычайнае жаночае забойства», — падкрэсліў псіхолаг. Інакш як жахлівай звычайнасцю, усё тое, што ў адно імгненне звалілася на слабыя плечы «грамадзянкі Вашковай» раптоўна змяніўшы ўтульныя сямейныя вечары на турэмныя нары, дзе спяць па'чарзе, не назавеш. Рок, нялюдскі збег абставінаў, кароткачасовае асляпленне...

«Я не хацела... Я не магла гэтага здзейсніць», — казала яна пазней і зноў плакала. Нават супрацоўнікі следчага ізалятара заўважылі тады, што жанчыну сапраўды душыць шчырае гора, гора страты роднага, каханага чалавека, трывога за сына, што застаўся адзін, невядомасць уласнага лёсу, але найбольш усё ж першае...

Страшэннае няшчасце — быць жонкай аматара выпіўкі. Пішу гэтыя радкі, а за сценкай зноўку «калоцяцца» суседзі. Калісьці даўно ён дарыў ёй букеты шыкоўных ружаў, рамантычна прапаноўваючы забраць яго руку і сэрца. Яна, вядома ж, наўрад ці магла тады ўявіць, што праз некалькі гадоў тое самае сэрца скамянее ў адвечных п'янках, а пацяжэлая ў штодзённых пахмеллях рука з усяе моцы пакуль яшчэ моцнага мужыка абрушыцца на яе рэбры.

Што ж да Генадзя Вашкова, дык ён, столяр «залатыя рукі», раней амаль што і не піў. «Развязаўся, — расказвае гаваркая суседка, — Гена толькі ў апошні час, як перавёўся на новую работу, дзе атрымаў, відаць, неабсяжнае поле для «халтуры». Хтосьці плаціў грашыма, хтосьці гарэлкай — тут усё ясна... А п'яны ён ціхім не бываў. Уся кватэра ў іх трэслася...»

Каб перажыць «чорныя гадзіны», Аліна ўпотайкі збягала на начны двор, дзе блукала-мерзла, чакаючы, пакуль муж супакоіцца і засне. Часам даводзілася чакаць паўночы. Часта прастуджвалася. Але гэта было лепей, чым чарговы скандал ці, не дай Бог, бойка. Яна проста трывала, як трываюць верныя жонкі, спадзеючыся, што хутка навала пройдзе, што яны разам перамогуць гэта, што яна запіша мужа на якое-небудзь кадзіраванне, што ўсё будзе як раней. Але як раней ужо не будзе цяпер ніколі...

Божа мой, якая тыповасць... Якая, зноў жа, балючая, горкая звычайнасць... Колькі такіх кабет блукае ўначы па вуліцах Мінска хаця б у дні атрымання заробку на працуючых яшчэ заводах! Колькі кабет гэтак жа цягнуць сваіх мужыкоў на кадзіраванне!

Не сакрэт, што жаночая злачыннасць на бытавой глебе ў апошні час расце. Пра гэта гавораць і зводкі крымінальнай хронікі, гэта пацвярджаюць і супрацоўнікі судоў. Даведзеная да адчаю ў сям'і слабая палавіна гатова здзейсніць тое, аб чым будзе шкадаваць потым усё астатняе жыццё, частку якога, натуральна, правядзе ў зняволенні. Яшчэ блукае па людзях жудасная гісторыя, што адбылася нядаўна ў Мінску, калі маладая жанчына, «парашыўшы» мужа, павесілася і сама, пакінуўшы сіротамі траіх малых дзетак. Не апошняя, і не першая...

І глухое маўчанне... Як быццам так і трэба, як быццам усё добра. У той жа суседняй Польшчы створаны спецыяльныя псіхалагічныя службы дапамогі і жонцы, і мужу ў апісаных вышэй выпадках, існуюць камісіі па барацьбе з насіллем у сям'і. Ва ўсіх еўрапейскіх краінах даўно створаны спецыяльныя дамы-прытулкі для жанчын, з якіх здзекуюцца мужы. Супрацоўнікі-валанцёры гэтых дамоў прыкладаюць усе сілы, каб стварыць там утульную атмасферу, дапамагчы пакутніцам адпачыць маральна і фізічна, даць ім псіхалагічную дапамогу і падтрымку. Падключана да гэтага і паліцыя. У некаторых краінах дастаткова пабітай жонцы два разы звярнуцца ў прытулак, і дзяржава гарантуе ёй (вядома пры яе жаданні) хуткі і беспраблемны развод. Муж жа прыцягваецца да судовай адказнасці і можа нават трапіць у турму.

А ў нас? Калі мая няшчасная суседка ў скрусе і паніцы, шукаючы хоць якой-небудзь управы на «любага», чатыры разы набірала 02, на тым баку проваду з яе відавочна «прыколваліся». Вядома ж, ніхто не прыехаў. А раніцай яна ўжо ляжала на аперацыйным стале 5-й мінскай бальніцы з разбітай галавой.

...Аліна гатавала вячэру. Хатняя гаспадыня рабіла тое, чым займалася ў гэты час дваццаць адзін год запар. Калі Аліна ўжо рэзала хлеб, да яе падышоў муж. Ён зноўку быў п'яны, і яму надта карцела пасварыцца. Аліне таксама захацелася сварыцца з ім, сварыцца страшна, як сварацца сапраўды раз'юшаныя жанчыны, бо цярпець гэта амаль штодзень яна ўжо проста не магла...

Калі сын увайшоў у кухню, бацькі стаялі адзін насупраць аднаго і гучна лаяліся. Што адбылося праз колькі імгненняў, не зразумеў спачатку ніхто. Бацька ціха войкнуў і пачаў падаць на стол. Хлебны нож, што маці трымала ў руцэ ў час размовы, тырчэў у яго з грудзей. Лямантуючы, Алег схапіў кухонны ручнік, бо падлога, стол і ўся ежа на ім ужо афарбаваліся ў колер артэрыяльнай крыві. Збялелая Аліна кінулася тэлефанаваць у «хуткую».

Праз тры гадзіны Генадзь памёр у бальніцы. Аліны побач не было — яе адправілі дахаты, сказаўшы, што рана нястрашная. На пахаванне мужа яна ўжо не трапіла.

Так сышла ў нябыт чарговая, звычайная беларуская сям'я. І ніхто не ведае, колькі падобных трагедый можа яшчэ адбыцца.

**Вольга ДРАЗДОВА.**

***З той, без перабольшання вялікай колькасці твораў, якія паступаюць на конкурс, чамусьці толькі лічаныя адзінкі носяць пазнакі гумару — не абстрактна-банальна-анекдатычнага, а гумару як вельмі важнага мастацкага сродку ў кароткім жанры прозы. Апавяданне Віктара Супрунчука ў гэтым плане прыемнае выключэнне.***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ГАДЗІНА ПІК

Гісторыя песні «Гадзіна пік» Уладзіміра Мазго і Якава Навуменкі крыху незвычайная. Гады два таму спявак завітаў да Уладзіміра на працу, каб пазнаёміцца з яго новымі вершамі. Там, у невялікім пакоі на 12-м паверсе сталічнага Дома кнігі, дзе паэт працуе рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», Якаў падабраў некалькі вершаў на свой густ і меркаваў пасля ўвасаблення іх у музыцы ўключыць у рэпертуар. Таму ён папрасіў Уладзіміра хутчэй перадаць тэксты кампазітарам, што той неўзабаве і зрабіў.

Праз нейкі час верш «Гадзіна пік» быў пакладзены на музыку і нават выкананы, а потым наступіла зацішша... Неяк пазней у парыве натхнення Якаў, калі яго апанавала рытмічная мелодыя, вярнуўся да гэтага тэксту... і стварыў песню. І яна загучала ў эфіры, на сцэне, атрымала прызнанне і ў моладзі, і ў сталага пакалення.

Песня «Гадзіна пік» змяшчаецца па просьбе студэнтаў Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.

**Міхась ШАВЫРКІН.**



***Верш Уладзіміра МАЗГО***
***Музыка Якава НАВУМЕНКІ***

Няўмольны час, імклівы час
Хвалюе нас, бунтуе нас.
Ці ён бяжыць, ці ён ляціць,
А не суняць, а не спыніць.
Я так спяшаў і не паспеў.
У свой вагон у час не сеў.
Спазніўся я — пайшоў цягнік.
Віною ты — гадзіна пік...

**Прыпеў:**
Гадзіна пік, гадзіна пік.
Спяшаю я на свой цягнік,
Пакуль цягнік з вачэй не знік.
Віною ты — гадзіна пік!..

А час надзей, а час падзей —
То дабрадзей, то ліхадзей.
І кола дзён як ні круці —
Спазніцца можаш у жыцці.
І мары дзён, і сны начэй —
Усё хутчэй, усё хутчэй.
І разабрацца цяжка мне:
Наяве гэта ці то ў сне?..

**Прыпеў**

Нясе матор, вязе матор,
А там — наперадзе — затор.
І, не міргаючы, ва ўпор
Глядзіць чырвоны святлафор.
Цягнік спазніўся. Я паспеў
І у вагон патрэбны сеў,
Заняўшы месца ля акна,
Адкуль гадзіна пік відна.

**Прыпеў.**

## ... А ПАДСТРЭЛІЎ БУСЛА

Не пашанцавала двум паляўнічым са Светлагорска, калі яны выехалі ў лясны масіў паблізу пасёлка Сасновы Бор пастраляць зайцоў. І як там было, ведаюць толькі яны, бо ў выніку, як сказана ў аператыўнай міліцэйскай зводцы, неасцярожнага абыходжання з ружжом паляўнічы Танчэўскі параніў у спіну Бусла, другога паляўнічага, які трапіў у бальніцу.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ*

**Віктар СУПРУНЧУК**

# ХЛОПЦЫ-«АГАРОЎЦЫ»

**Апавяданне**



— АХ, ЦЁТАЧКА, як цяжка, як цяжка... — уздыхнула Дабрынічыха.

— Што цяжка, галубка мая Зося?

— Нічога добрага, цётку Фані, нічога добрага.

— Як гэта нічога добрага? — надта ж здзіўленая Шантычыха. Што ж здарылася са спакойнай, бы цялушка, Дабрынічыхай? Нібыта ўсё ў яе як след: хлеў не згарэў, карова не здохла...

— Усё неяк, цётачку, кепска. Душа смуткуе, сэрца стогне. Успамінаю свайго нябожчыка Янку. Уначы прачнуся, мацаю побач ложак, шукаю. А яго, небаракі, нямашака.

— Што праўда, то праўда, Зоська. Аднак ты кабета шчэ хоць куды. Рэбраў гэных не знойдзеш. Бач, як мяса спадніцу рве, — Шантычыха сыпнула курам ячменю і соладка пазяхнула. Успомніла, што нешта снілася сягоння прыемнае. Аднак выпала з памяці. — Богу маліся, дурніца. Мо і цішэй стане на сэрцы. Як хочаш, але і не пашкодзіць схадзіць да Антоля Куроўскага. Ён чалавек разумны, кніжкі святыя чытае.

— Цётачку, дык і пайшлі, — папрасіла Зоська. Яна ладная, гаспадарлівая жанчына, на прызбе не сядзіць, калупаецца ў агародзе. Шчокі румяныя, вочы нібы алеем памазаныя. Часам галасок салодкі, што ў яе гарбата. А на тым тыдні счапілася з Рузай, дык раўла нібы калгасны трактар, які сена цягне па балоце з лесу.

Антоль Куроўскі калоў дровы. Відаць, нялёгка ў семдзесят грукаць па калодзе сякерай. Ды не пустой.

— Што, зязюлькі, да мяне завіталі? Без патрэбы не заходзілі...

— Ай, дзядзечку, на сэрцы муляе. Цётка і кажа: наведаем Антоля. Вы ж у нас чалавек разумны. Не хлусяць, што Біблію маеце і чытаеце? — Зоська ажно прыгорбілася, быццам хоча ўкленчыць. Так раптам запаважала старога. Дагэтуль, бывала, пройдзе і вусны не расціснe.

— Чытаю, чытаю, ягадка. Царкву трэба ў нашу вёсачку, царкву, — Антоль Куроўскі паказаў рукою на неба, пасля ўдалячынь. — Духу добрага, святога не хапае. Адсюль хваробы, зайздрасць, калецтва адзін аднаго.

— І што? — Шантычыха лічыла сябе не дурнейшай.

— А ты не спяшайся, калі зайшла. Па людзях трэба, капейка да капейкі — і царква. Які Бог ні добры, але без грошай ніхто з месца не скранецца.

Царквы ў вёсцы не было. Калі ўзнікала вялікае жаданне, ішлі ці ехалі людзі за пятнаццаць кіламетраў у Замошша. Гэта не тое, што ў канцы вуліцы. Чаму б і сапраўды на ўзгорку, сярод клёнаў і ліпаў, не ўзвесці цэрквачку? Было б радасна і воку і сэрцу. Нікому шкоды. Некалі прасілі ў начальнікаў раёна дазвол. Адказ быў суровы: ні ў якім разе. Аднак вяскоўцы верылі, што будзе цэрквачка і на іхняй вуліцы.

Хто ж адмовіць рубель на святую справу? Лепш бабуля спадніцу не купіць, а сваю долю дадасць.

Двароў якіх трыста. За тыдзень Зоська з Шантычыхай і Антолем Куроўскім усе абышлі. На святы дзень нядзелю цішком сабраўся мясцовы люд пад выглядам маёўкі на выжары ля агарода Фядула Яроцкага. Там галінастыя вербы, трава, як дыван, і суха, бы ў хаце. Апрануліся жанчыны і мужчыны чыста, хто што меў лепшае. Меркавалі паклікаць сельсавецкага галаву Кастуська, але Антоль Куроўскі сваім розумам палічыў: як пры паляках, так і цяпер, пры бальшавіцкай уладзе, начальнікі не любяць, калі самастойна збіраецца гурт. Усе з гэтым пагадзіліся. Хацеў Антоль і пра справу пачаць. Дзе ж там кабету апярэдзіш. Шантычыха паказала свой розум. Ступіла перад Куроўскім і — замалола языком. Пра што казала, трошкі зразумелі, бо і так ведалі, навошта сабраліся на выжары.

— Цябе, Фані, у брыгадзіры выберам! — крычалі, пасміхаючыся, жанчыны. — Мо Брэжнева некалі зменіш...

— Ай, каб вам добра было, — нязлосна агрызалася Шантычыха. Усё-ткі разумнае слова сказала, і яго ў гвалце, рогаце пачулі. — Ганцоў трэба выбраць...

Нават Антоль Куроўскі пагадзіўся з гэтым. Навошта ж грошы збіралі? Людзям якраз хопіць з'ездзіць у Крэмль да Брэжнева, каб той блаславіў і памог. Калі мясцовыя панкі няздольныя на гэта.

Выбралі трох маладзейшых, але сталых ужо мужчын. Нехта гукаў Шантычыху, потым Зоську Дабрынічыху. Абедзве адмовіліся. Аднак Шантычыха назвала свайго Павелка, які быў пры калгасных каровах пастухом. Электрычнай агароджай абцягне луг і спіць. Час ужо і ў свет выбрацца. Калі народ вырашыў, так таму і быць. Антоль Куроўскі ўзгадаў, што Масква надта вялікі горад і жулікаў шмат. Каб сцерагліся.

Як узнялося сонца, падаліся хлопцы на чыгунку. Ніхто дагэтуль вельмі далёка ад вёскі не ездзіў. Каманду на сябе ўзяў Павелка. Пры разумнай жонцы і муж не апошні чалавек.

— Слухайце мяне, дружбакі, і ўсё будзе, як у маім статку. Ніводны бык без дазволу нікуды не палезе.

Білеты ўзялі на самы танны цягнік. Ён неяк марудна поўз, бясконца спыняўся. Незаўважна заскугоіў страўнік. Выйшлі ў Баранавічах на вакзал — тут перасадка на маскоўскі цягнік. Ды яго яшчэ чакаць і чакаць. Вакол людзей бегае шмат. Здаецца, кожны другі жулік, ашуканец. Прападуць людскія грошы. Не відаць тады царквы, як сваіх вушэй. Трымаюцца Павелка, які ўпэўнена агледзеўся і кажа:

— Усё добра, хлопцы, але кішкі марш іграюць. Мы ж адказныя асобы. Няўжо будзем есці з торбаў, што бабы далі ў дарогу? Я нядаўна бачыў у кіне... Вось куды нам патрэбна! — і паказаў на дзверы. Тут, на вакзале. На дзвярах шыльда: «Рэстаран».

Павесялелі хлопцы. Не, нездарма Павелка за камандзіра ў іх. Запаважалі яго, забылі, што дзень у дзень спіць ля кароў, нібы замошаўскія пажарнікі. Як селі за стол, здалося, трапілі ў рай. Дзяўчаты ў белых фартушках нанеслі розных прысмакаў, напояў. Усё, што Павелка чытаў з нейкай кніжкі. Зух, а не хлопец. Пашанцавала, што ён з імі. Паабедалі, як ніколі не елі ў жыцці. Пакуль выбраліся на перон маскоўскі цягнік толькі хвост ім паказаў. Нічога, праз Баранавічы іх грукае шмат. Паспеюць, куды падзенецца той Брэжнеў са сваім Крамлём?

Непрыкметна прыпоўз і вечар. Цяжка хлопцам пасля смачнага абеду, панскіх напояў. Гэта не тое, што свая родненькая самагоначка. Салам з цыбуляю прыкусіў — і здаровы, бы ветэрынар Карней, які выпакладзе парася і радуецца: без стрэльбы на паляванне схадзіў. Ну, што зробіш. Па-святочнаму і павячэралі. Куды ўжо на ноч ехаць. Варта хоць раз у жыцці па-чалавечы ў гасцініцы паспаць. Раніцай паснедалі, падлячыўшы хворыя галовы. І пайшла гуляць кампанія... Якая ўжо тут Масква. Дый што там не бачылі, Баранавічы не горшыя. Грошы, бы ў рэчцы вада. Не заўважылі хлопцы, як засталося ў кішэні толькі даехаць да Агаровічаў. Тыдзень праляцеў, нібы адна ноч. Выпілі па апошняй бутэльцы піва, залілі трохі смагу і засумавалі хлопцы. Што казаць людзям? Спытаюць. Якое рашэнне атрымалі ў Крамлі? Моцна расхваляваўся і Павелка, ажно сляза пацякла з вачэй. Аднак нездарма столькі гадоў ля кароў, у спакоі часу хапала падумаць пра жыццё.

— Трымайце язык за зубамі. Ніводны сабака не дакажа, што не былі ў Крамлі, — упэўнена сказаў Павелка. — Буду гаварыць я, астатнія маўчыце. Помню, пры паляках адзін ашуканец абдурыў усе Самойлавічы, сабраў злотыя і ўцёк. Мы ж не дурнейшыя...

Як толькі ступілі ў Агаровічы, паляцела пра гэта вестка па хатах. Заварушыліся людзі. Зноў, як і тыдзень назад, сабраліся на выжары ля агарода Фядула Яроцкага. Усе хлопцы палеглі адпачыць, адзін Павелка прыйшоў да аднавяскоўцаў. Як дужэйшы. І ў яго, канечне, быў стомлены выгляд. Да Масквы не як да Баранавіч. Пэўна, нялёгка. Тут, бывае, з грыбоў ледзь ногі цягнеш. Да ложка не дойдзеш, упадзеш.

Прыціх натоўп, падрыхтаваўся слухаць. Чуваць нават, як у двары Алеся Зялёнага дзіця плача. Няйнакш дачка ў водпуску. Во якое цікавае жыццё: быў Павелка пастух, паганяйла. Цяпер — першы чалавек. Ва ўсіх на тварах і ўваччу павага да яго і, можа, любоў.

Прысеў Павелка на пагорачку на кофце, якую падаслала яму Зоська. Не паглядзела, што святочная.

— Прыехалі мы ў Маскву. Гвалт, народу. Кругом зладзеі. Злодзей злодзея паганяе. Але трымаемся разам, каб у кішэні не залезлі. Спыталі ў міліцыянта, дзе Крэмль. Паказаў, праўда, як трэба. Кажа: спярша ідзіце прама, потым налева, зноў налева. Пасля — направа. І прама, прама, прама да саменькага канца. Ну, усё роўна як кароў я з пастаўніка ганю: міма Забарэцкіх, Ласасіны.

— Ты нам, Павелка, пра Ласасіну не кажы. Самі ведаем, — перапыніў яго Антоль Куроўскі.

— А што рот яму затыкаеш? — падала голас у абарону мужа Шантычыха.

— Дайшлі мы да Крамля, значыцца... Стаіць на варотах міліцыянт. Здаровы, бы зяць Яроцкага Міша. Пытаецца так прыемна, ласкава: «Куды, хлопцы?» Ясна, да Брэжнева. Калі ласка. Ён, значыцца, якраз на месцы. Мусіць, снедае. Нічога, кажам, пасядзім, пачакаем. Калі ўжо з Агаровічаў дабраліся, дык якую хвілю можна і перачакаць. Ідзем па двары. Вялізны такі, маіх мо дзесяць. Бы загон для кароў, куды ўвесь мой статак заходзіць. Гэта ж дзвесце кароў. Вазьмі, не абы што. Не тое што ў Івана Доўгага стопяцьдзесят... Ладна. Ідзем. Раптам бачым, сядзіць на нізенькім такім балконе, як у маёй дачкі Марылі ў кватэры ў Брэсце, дарагі наш Леанід Ільіч Брэжнеў. Хлопцы, скажу, трохі злякаліся. Рыхтык яны кожны дзень спатыкаліся з Брэжневым. Ён якраз-такі і снедаў. Правільна казаў міліцыянт. Сядзіць і есць бульбяныя камякі з кіслым малаком. Я ж таксама люблю зранку гэтак паесці. Убачыў нас, пытаецца: «Што вы, хлопцы-агароўцы, па Крамлі поўзаеце? Каб якую паперу ў мяне не спёрлі!» Мы да яго. Так, маўляў, і так. Просім дазволу царкву ў Агаровічах пабудаваць. Будзем усё жыццё за вас, дарагі Леанід Ільіч, Богу маліцца. Засмяяўся задаволены. Узяў карту, прыгожую, рознымі алоўкамі размаляваную. Што думаеце, адразу знайшоў нашу вёску. Глядзеў, глядзеў, а потым і кажа: «Эге, даражэнькія хлопцы-агароўцы... Ад вас недалёка вёска Замошша. Там царква ёсць. Вось туды і хадзіце. Няма чаго лішніх цэркваў будаваць».

Што тут казаць. Інакш Брэжнеў і не мог вырашыць. Лёсам ужо наканавана хадзіць ім у Замошша. Разыходзіліся людзі панылыя, нібы кожны з іх пахаваў са сваёй хаты нябожчыка.

— Нешта тут не тое, — бубніў сабе пад нос, ідучы дамоў, Антоль Куроўскі. — Бульбяныя камякі з кіслым малаком еў... Чуў я за палякамі ад аднаго прайдзісвета нешта гэткае... Потым са злотымі ўцёк. А можа?.. Хто яго ведае?.. Каб кумпяк еў, ці каўбасы, а то кіслае малако... Не шанцуе нашым Агаровічам. Хлопцы-агароўцы, хлопцы-агароўцы! Цьфу!

*ПРАШУ СЛОВА*

# СУБОТНІК — НЕ ВЫЙСЦЕ

У мяне няма ўпэўненасці, што гэта пісьмо будзе надрукавана. Але ж трэба выказаць сваё меркаванне. Тым больш што яно не толькі маё. А размова ідзе пра так званыя суботнікі, калі працоўных і служачых розных устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў гвалтоўна-добраахвотна прымушаюць выязджаць у калгасы і саўгасы для аказання ім дапамогі ва ўсіх вясенне-летне-восеньскіх работах. Я яшчэ не сустракаў аніводнага чалавека (акрамя прадстаўнікоў улады), які б лічыў, што гэтая мера з'яўляецца неабходнай. На маю думку, гэта проста нежаданне мясцовых уладаў выконваць свае абавязкі, шукаць і знаходзіць законныя шляхі вырашэння праблем сельскай гаспадаркі. Прымусова накіроўваючы грамадзян на працу ў калгасы і саўгасы, кіраўнікі груба парушаюць патрабаванні Кодэкса законаў аб працы, ушчамляючы правы грамадзян. А прадстаўнікі пракуратуры, якія павінны сачыць за выкананнем дзяржаўных законаў, робяць выгляд, што ўсё ў парадку.

Не трэба думаць, што насельніцтва ўвогуле супраць суботнікаў. У шэрагу выпадкаў без іх цяжка абысціся. Можна зразумець, калі дзеля выратавання ўраджаю пры крытычных умовах надвор'я кіраўніцтва звяртаецца па дапамогу да насельніцтва. Але ж калі гэта робіцца кожны год на працягу большай часткі года, прычым у парадку загаду, ды яшчэ і ў выхадныя дні, гэта трэба разумець як яўны правал у гаспадарчай дзейнасці кіраўнікоў рознага рангу. І ў такім выпадку трэба прымаць іншыя меры. Бо такія суботнікі, нягледзячы на тое, што дапамагаюць неяк паправіць справы ў кожным канкрэтным выпадку, у цэлым прыносяць вялікую шкоду.

Па-першае, грамадзяне, не звыклыя да сялянскай працы, не могуць працаваць якасна. Ды і аплата працы зусім не заахвочвае працаваць добра.

Па-другое, пакуль «мабілізаваныя» даедуць да месца працы, праходзіць нямала часу, а дамоў усе хочуць дабрацца да канца рабочага дня. У выніку на працу, з улікам абедзеннага перапынку, застаецца каля пяці гадзін. А калі ўлічыць, што часам такія «суботнікі» пачынаюцца з бутэлькі (балазе, яна ў тры разы танней за каўбасу), то можна зрабіць выснову: рэнтабельнасць гэтых мерапрыемстваў ніжэй за любую крытыку.

Па-трэцяе (а можа па-першае?!), амаль кожны раз, прыехаўшы ў гаспадарку, бачыш, што рабочай сілы там не так ужо і мала. Толькі займаецца гэта сіла сваімі справамі. Адны апрацоўваюць свае або суседавы соткі, іншыя запасаюцца дарамі лясоў. А даволі вялікая частка яўна лайдачыць, прапіваючы рэшткі зарплаты, або ўраджай са сваіх (ці мо з чужых) сотак. І вельмі часта пасмейваюцца над гараджанамі. Вось і прыходзіць думка: чаму ж я еду за дзесяткі кіламетраў, пакінуўшы сваю працу, якую за мяне ніхто не зробіць, каб працаваць за гэтых лайдакоў? А нашыя добрыя ўлады ім яшчэ на бяскорміцу матэрыяльную дапамогу акажуць. З бюджэту, які складаецца з нашых жа падаткаў. А як жа, усе павінны роўна есці. А працаваць?

Па-чацвёртае, едучы на суботнік, мы вымушаны адкладваць выкананне сваіх хатніх спраў на іншы час. Гэта падштурхоўвае да няякаснага выканання сваіх службовых абавязкаў, зніжае ўзровень працоўнай дысцыпліны, якая ў нас і так далёка не бліскучая.

Па-пятае, масавыя паездкі на суботнікі цягнуць за сабой збоі ў працы большасці арганізацый і ўстаноў. Прыходзіш у паліклініку — урач на суботніку, у цырульню — тая ж карціна. І так па ўсіх установах. Асабліва гэта праблема стаіць у невялікіх раённых гарадках. Такое становішча стварае нездаровую нервозную абстаноўку.

І яшчэ адзін вельмі важны пункт. На суботнікі адпраўляюць усіх, нягледзячы на ўзрост, пол і самаадчуванне чалавека. А гараджане ж не такія загартаваныя, як вясковыя жыхары. Вось і ўзрастае колькасць захворванняў, асабліва сярод маладых жанчын. Ім жа прыходзіцца рабіць тую ж работу, што выконваюць мужчыны. І на высокія трактарныя прычэпы кідаць буракі, і 50-кілаграмовыя мяшкі цягаць. А яны ж маладыя маці, ад іх здароўя ў многім залежыць здароўе нацыі, аб якім так любяць гаварыць з высокіх трыбун.

Пералік такіх пунктаў можна прадоўжыць. Але пара б і падумаць, як адмовіцца ад гэтай заганнай традыцыі. Тым больш, што такім шляхам сельскую гаспадарку не падняць. Трыццацігадовы вопыт правядзення суботнікаў поўнасцю даказаў гэта. Варта было б прымяніць адзін прынцып сацыялізму: ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы. А не падтрымліваць гультаёў і п'яніц матэрыяльнай дапамогай за кошт тых, хто працуе сумленна. Варта было б спыніць спойванне народа таннай гарэлкай. Варта было б навесці належны парадак з працоўнай дысцыплінай, пачынаючы з кіраўнікоў і заканчваючы вартаўніком. І ўстанавіць цэны ў залежнасці ад сабекошту і грамадскай карыснасці тавару, каб не былі прывазныя напоі даражэйшыя за малако, ці замежная жвачка даражэйшая за бохан хлеба. Тады будзе чым зарплату селяніну заплаціць, ды і людзі ў сяло пацягнуцца, бо не працы баяцца, а таго, што не паважаецца гэта праца.

**Генадзь ВОЛКАЎ,**
*Расоны.*

## РУПЛІВАЙ ГАСПАДЫНІ

# Хто запаслівы, той і шчаслівы

**Валоданне майстэрствам працяглага захоўвання прадуктаў заўсёды лічылася неабходнай вартасцю добрай гаспадыні. Цяпер вырашаць гэтую праблему больш складана. Прасторны ўмяшчальны склеп, ляднік сталі рэдкасцю, асабліва ў гарадскіх умовах. Але безвыходных сітуацый не бывае. Спадзяёмся, што нашы парады дапамогуць тым, хто яшчэ не паспеў запасціся агароднінай.**

### КАПУСТА

■ Капуста ў качанах даволі капрызная для захоўвання ў хатніх умовах. У халадзільніку качан хутка вяне, а ў поліэтыленавым пакеце — загнівае.

■ Лепш за ўсё трымаць капусту падвешанай за храпку, паколькі псавацца капуста пачынае менавіта ў месцах сутыкнення з падлогай або паліцай.

### ПАМІДОРЫ

■ Сабраныя восенню, яны добра захоўваюцца ў цёмным сухім месцы, калі ляжаць у адзін слой пладаножкамі ўверх. Зялёныя памідоры складзіце ў драўляныя скрынкі і трымайце на падлозе, дзе халаднавата і цёмна. Тэмпература павінна быць плюсавая. Лічыцца, што суседства двух-трох чырвоных памідораў паскарае пакрасненне астатніх.

■ Памідоры можна датрымаць да Новага года, калі адабраныя здаровыя зялёныя плады загарнуць у паперу і ўлажыць у скрынку, засланую саломай або парванай на кавалачкі паперай, пладаножкамі ўверх.

### БАКЛАЖАНЫ

■ Калі вы хочаце захаваць іх надоўга, а кансерваваць няма калі, проста нарэжце кружочкамі і высушыце. Без халадзільніка захоўвайце нанізанымі на нітку, як грыбы. Выдатнае атрымаецца рагу зімой!

### МОРКВА

■ Морква доўга захоўваецца ў поліэтыленавым пакеце або слоіку з накрыўкай, калі перад гэтым яе добра вымыць, акунуць у ружовы раствор марганцоўкі і, расклаўшы на чыстай паперы, высушыць.

■ Калі давядзецца захоўваць моркву ў драўлянай скрынцы, нядрэнна перасыпаць караняплоды сухім шалупіннем цыбулі.

### ЦЫБУЛЯ І ЧАСНОК

■ Класічны спосаб — сплясці іх у косы і павесіць на сцяну ў зацішным цёмным сухім месцы, дзе тэмпература больш-менш стабільная. Гэта можа быць нават закутак побач з батарэяй. Павышаная сухасць перашкаджае цыбулінам прарастаць.

■ Калі вы не зберaглі цыбуліны і яны падмерзлі, пакладзіце іх на 2-3 гадзіны ў халодную ваду, і яны адновяць свой выгляд і смак, але для працяглага захоўвання такая цыбуля ўжо непрыдатная.

■ Часнок можна нядрэнна захаваць у палатняных мяшочках, перасыпаўшы сухім шалупіннем цыбулі. У халаднаватым сухім месцы часнок захоўваецца да вясны.

■ І ўсё ж часнок больш капрызны, чым цыбуля. З часам ён моцна ўсыхае. Перад закладваннем на захоўванне абмакніце кожную галоўку ў расплаўлены парафін, каб утварылася суцэльная абалонка.



■ Яшчэ адзін экзатычны спосаб: зубкі часнаку пачысціць і пакласці ў алей. Там яны добра захаваюцца, а алей набудзе апетытны прысмак.

-1410-

## ПАКАШТУЙЦЕ — СМАЧНА

# Усяму аснова — фарш

**Як вы, напэўна, здагадаліся, сёння мы будзем фаршыраваць. Такія стравы падыдуць і для святочнага стала, і для штодзённага меню.**



**Фаршыраваныя буракі.** Вымыць і спячы буракі, аблупіць, выдаліць лыжкай мякаць. Варанае мяса пракруціць на мясарубцы, дабавіць вараны рыс, смажаную цыбулю, соль, перац. Напоўніць буракі фаршам, пакласці на патэльню з маслам, заліць смятанай і некалькі хвілін запякаць у духоўцы.

**Фаршыраваны перац.** Стручкі салодкага перцу вымыць, выдаліць пладаножку і насенне. Пакласці стручкі на 2-3 хвіліны ў падсоленую ваду, якая кіпіць, адкінуць на друшляк і астудзіць. Для фаршу сырое мяса прапусціць праз мясарубку, дабавіць звараны рассыпісты рыс, дробна парэзаную абсмажаную цыбулю, соль, перац. Напоўніць стручкі фаршам, пакласці ў неглыбокую шырокую каструлю, заліць вадой, дабавіўшы смятаны або таматнай пасты з часнаком і спецыямі. Тушыць у духоўцы або на маленькім агні да гатоўнасці (30—40 хвілін).

**Фаршыраваная бульба**. Абіраем бульбу, нажом для фаршыроўкі робім адтуліны і вымаем спіралі, якія можна пакласці на бляху.

Асобна бяром 2-3 морквіны, 1 бурак, чысцім і націраем на сярэдняй тарцы, затым абсмажваем на алеі і падсольваем.

Астылай масай напаўняем адтуліны ў бульбінах і выкладваем на бляху, зверху бульбу можна намазаць падсоленым маянэзам. Час прыгатавання — каля гадзіны (атрымліваецца смачней, чым з мясам).

## АЗБУКА ЗДАРОЎЯ

# Лепшы стаматолаг — яблык



Пасля шматгадовых назіранняў стаматолагі прыйшлі да высновы: яблыкі — цудоўны сродак для чысткі зубоў, бо пры іх жаванні знішчаецца 96 працэнтаў бактэрый. Так што, жуючы яблыкі, можна абысціся без зубной шчоткі.

Ва ўсходняй медыцыне лічыцца, то яблыкі «надаюць сілу сэрцу і страўніку», «дзяцей ратуюць ад сухотаў». Яблыкі карысныя і пры атлусценні, гіпертаніі, калітах, хваробах печані і нырак... Адным словам, старайцеся ўжываць як мага болей яблыкаў — тым больш, што для гэтага самы час!

# Грызіце гарбузікі

Бадай, самая галоўная іх вартасць — высокае ўтрыманне вельмі важнага для чалавека мікраэлемента цынку. Сцвярджаюць, што больш яго толькі ў вустрыцах, але іх можа дазволіць сабе далёка не кожны, а гарбузікі — калі ласка. Вугравая сып, цьмяныя рэдкія валасы, страта смакавых адчуванняў — так праяўляецца дэфіцыт гэтага мікраэлемента ў арганізме. З'ешце жменю гарбузікаў, і вы задаволіце дзённую патрэбнасць у цынку.

У насенні гарбуза ўтрымліваюцца вітаміны групы В, аскарбінавая кіслата, арганічныя кіслоты і іншыя рэчывы. Урач можа прызначыць яго як процігліставы сродак. У адрозненне ад многіх іншых прэпаратаў, якія выкарыстоўваюцца для гэтай мэты, гарбузікі не аказваюць пабочнага дзеяння. Іх можна грызці і дзецям, і цяжарным жанчынам, і састарэлым людзям.

-1411-

# БЛІЗНЯТЫ, ЗАХОЎВАЙЦЕ ТАЙНУ...

## *УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ*

КАЗЯРОГ сутыкнецца з цяжкасцямі на рабоце. Астролаг раіць не спяшацца з выказваннем нездаволенасці, а набрацца цярпення і працягваць вырашэнне службовых праблем. Не надта вясёлым акажацца ў вас на гэтым тыдні сямейнае жыццё. У адносінах паміж маладажонамі можа ўзнікнуць напружанасць, але затое выхад з крызісу паслужыць умацаванню сямейных вузаў. Здароўе бацькоў прымусіць больш увагі ўдзяляць іх догляду.

ВАДАЛЕЙ можа рызыкнуць і пачаць новую дзелавую справу. Упэўненасць у поспеху дапаможа вам пераадолець сумненні і паслужыць уступленню ў зусім новую сферу дзейнасці. Нечаканую рэакцыю навакольных выклічуць апошнія творы Вадалеяў-журналістаў. Затое палітыкаў чакаюць назначэнні на высокія адказныя пасады ці выбранне ў важныя органы ўлады. У канцы тыдня з'явіцца магчымасць для невялікага падарожжа.

РЫБЫ атрымаюць добрыя весткі адносна прыемных перспектыў у кар'еры. На рабоце ўсё будзе складвацца добра, а новы кантракт прадоўжыць ваша знаходжанне на службе. Начальства падрыхтуе для вас важнае даручэнне, ад выканання якога ў далейшым будзе залежаць ваша павышэнне па службовай лесвіцы. Дзелавыя праекты будуць адобраны інстанцыямі, і можна рыхтавацца да расшырэння бізнесу.

АВЕНЫ дружалюбнымі адносінамі з калегамі па рабоце ўмацуюць свой аўтарытэт, а кіраўніцтва не прымусіць чакаць і выдасць вам салідную прэмію. Бізнесмены прыступяць да рэалізацыі новага праекта, які прынясе вялікія дывідэнды. Дома чакаецца вясёлае свята, а таксама значныя расходы на падарункі родным. Ад бліжэйшага сваяка даведаецеся, што адзін чалавек гатовы памерці ад кахання да вас.

ЦЯЛЬЦЫ павінны будуць напружана працаваць і аддаваць увесь час на карысць уласнага бізнесу. Пры выкананні доўгатэрміновага кантракта вам давядзецца ўкласці ў яго немалую суму, якая апраўдаецца ў бліжэйшы час. Не бойцеся расстацца з тымі калегамі ці падначаленымі, якія не праяўляюць стараннасці ў рабоце. Пры гэтым не губляйце гібкасці ў адносінах з навакольнымі, сярод якіх, магчыма, добрых людзей больш, чым дрэнных.

БЛІЗНЯТАМ давядзецца насіць у сабе тайну, якой нельга будзе падзяліцца з іншымі. Неабходнасць хаваць яе прымусіць адгарадзіцца на нейкі час ад іншых і моцна перажываць. Цяжкі стан пагоршаць недамаганне і праблемы ў адносінах з каханым чалавекам. Планеты невінаватыя ў вашых непрыемнасцях, прычыны якіх шукайце ў саміх сабе. Але не займайцеся самаедствам, а выкарыстайце тое, што раіць вам астролаг, і адпраўляйцеся адпачываць.

РАК набудзе шчаслівую магчымасць крыху перадыхнуць ад бягучых спраў. Стан вашага бізнесу цалкам нармальны і нават блізкі да выдатнага. Дзяржаўным служачым выпадзе грашовае ўзнагароджанне, а юныя Ракі даб'юцца поспеху ў пачатку сваёй кар'еры. Але не губляйце пільнасці, інакш вас чакаюць фінансавыя страты пры рэалізацыі новага кантракта. Не ўсе навакольныя жадаюць вам поспеху. Будзьце пільнымі і трымайцеся ад такіх людзей як мага далей.

ІЛЬВЫ з дапамогай сябра атрымаюць выйгрыш ад банкаўскай аперацыі альбо здзелкі на біржы. Устрымайцеся, аднак, ад любых спекуляцый, якія прынясуць адны толькі страты. Тых, каго корміць фізічная праца, чакае дадатковая работа, за якую атрымаеце добрае ўзнагароджанне. Прадстаўнікі разумовай працы рызыкуюць страціць месца на службе з-за прыкрай памылкі. Больш сур'ёзна падыходзьце да сваіх абавязкаў, і вам удасца іх пазбегнуць.

ДЗЕВА сутыкнецца з праблемамі на рабоце, але своечасова зможа пераадолець цяжкасці. Юрысты атрымаюць перамогу ў судзе і выйграюць справу. Студэнты атрымаюць заманлівую прапанову аб стажыроўцы ў саліднай установе. Не ўпусціце такой магчымасці, бо яна выпадае не ўсякаму і не кожны дзень. У бізнесменаў паявяцца невялікія праблемы, якія лепш за ўсё вырашыць з дапамогай калег і спецыялістаў.

ШАЛІ ажыццявяць выгадную аперацыю ў бізнесе з дапамогай даўніх сяброў. Вы атрымаеце задавальненне ад таго, што вашы адносіны з навакольнымі сталі больш цеснымі і добрасардэчнымі. Кантралюйце свае ўчынкі, што дасць магчымасць абысці сур'ёзныя праблемы і не ўвязвацца ў скандальныя сітуацыі. У вас наперадзе шмат спраў, якія прымусяць знаходзіцца далёка ад каханай персоны. Лепш за ўсё загадзя папярэдзіць аб гэтым і не прымушаць чалавека марна пакутаваць.

СКАРПІЁНЫ з галавой акунуцца ў падрыхтоўку выканання новага праекта, які гарантуе расшырэнне вашага бізнесу. Мацней завязвайце адносіны з замежнымі партнёрамі і выходзьце на замежны рынак, дзе вас чакаюць галоўныя поспехі. Дзяржслужачыя ўмацуюць сваё становішча на рабоце і атрымаюць павышэнне. Наперадзе ў вас магчымасць адправіцца ў марскі круіз, у час якога можна будзе адпачыць, а таксама кінуцца ў вір рамантычных прыгод.

СТРАЛЬЦЫ павінны ненадоўга адкласці прыняцце важнага рашэння. На нейкі час фартуна адвернецца ад вас і нават давядзецца згарнуць выкананне важнага праекта. Але гэта будуць вашы адзіныя цяжкасці, якія пераадолееце ў хуткім часе. Ва ўсім астатнім у вас усё будзе нармальна. Ваеннаслужачых чакае павышэнне па службе, а чыноўнікаў чакае крэсла начальніка.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР—ТАСС.**

*г. Дэлі.*

## РЫХТУЕМСЯ ДА ЗІМЫ

# Уцяпляем вокны

**Не станем паўтараць прапісныя ісціны аб неабходнасці ўцяпляць сваё жыллё — у гэтым нас пераконваюць рэзкае паніжэнне тэмпературы ды камунальныя службы, якія не вельмі шчодра падаюць цяпло ў апошнія гады. Спадзяёмся, вокны і дзверы ў вас ужо ў парадку, а калі не, то нашы падказкі будуць дарэчы.**

Па-першае, неабходна праверыць цэласць шкла і кітавання, замяніць трэснуўшыя шыбіны, умацаваць іх. Па-другое, заладзіць шчыліны паміж рамай і касяком, бо слой нерухомага паветра ў міжрамнай прасторы з'яўляецца цудоўным сродкам цеплаізаляцыі. Ён засцерагае жыллё ад холаду лепш, чым двухці нават трохслойнае шкленне.

Вокны з асобнымі рамамі можна ўцяпляць ватнымі жгутамі, якія заладжваюцца ў шчыліну ўнутранай або абедзвюх рам пры дапамозе нажа. Для гэтай жа мэты гаспадыні з поспехам выкарыстоўваюць старыя панчохі і калготкі. Гэты спосаб надзейны, але вельмі працаёмкі і не зусім эстэтычны, таму хутчэй і лягчэй абклеіць вокны вузкімі палоскамі паперы (у продажы бываюць гатовыя стужкі з клеем), прамочанай звычайным белым мылам з вадой. У раёнах з моцнымі вятрамі і маразамі замест паперы шчыліны можна замазаць свежапрыгатаваным растворам алебастру, будаўнічага гіпсу.

Спараныя рамы вокнаў і балконных дзвярэй лепш за ўсё ўцяпляць губчатым паралонам, лямцам, адходамі фетру, сукна. Гэтыя матэрыялы наразаюцца палоскамі таўшчынёй 1—5 мм і шырынёй 10—15 мм і прымацоўваюцца да ўнутранай паверхні рамы або да паверхні рамы і касяка, якія мяжуюцца. Добра выкарыстаць і пенапласт, што застаецца ад упакоўкі. Рэжуць пенапласт вострым нажом або гарачым паяльнікам. Шырыня палоскі павінна быць крыху большай, чым шырыня шчыліны, каб пенапласт ўваходзіў з ушчыльненнем.

Добры вынік дае кіт, прыгатаваны з мелу і мучнога клею (можна скарыстаць муку, якая сапсавалася). Мел з клейстарам змешваюць у роўных прапорцыях і разводзяць вадой да гушчыні смятаны, а потым атрыманай масай запаўняюць шчыліны ў рамах. Белая маса амаль нябачная. Вясной жа дастаткова адчыніць акно — і кітаванне адляціць без намаганняў. Яго можна сабраць і захаваць да паўторнага выкарыстання.

## БАЦЬКОЎСКІЯ КЛОПАТЫ

# «Ура! Заўтра ў школу»



Сын заявіў з парога: «А я атрымаў кол!» — і змоўк у чаканні. «Ну што ж, будзем гарадзіць плот», — пажартавала маці. Ён здзівіўся і выпаліў: «Не перажывай, заўтра я атрымаю 5!»

Каб дзіця ішло ў школу з настроем, нягледзячы на розныя праблемы, псіхолаг прапануе правіла «трох кітоў».

**Першы «кіт»** — паўнацэнны адпачынак. Вучоба — нялёгкая справа, няхай пасля школы дзіця пагуляе, пабегае, а ноччу спіць не менш чым 10 гадзін.

**Другі «кіт»** — выкананне хатніх заданняў пры любых абставінах, бо няўпэўненасць параджае страх, трывогу, якія могуць прывесці да нервовага захворвання.

**Трэці «кіт»** — вучоба, як і прыём ежы, будзе больш карысная «па раскладу». У пэўны час страўнікавы сок ператравіць ежу і дасць неабходную энергію.

-1412-

## КРУПІНКІ КЕМЛІВАСЦІ

# Новы пункт апоры

Скорасць перакопвання ўчастка залежыць не толькі ад сілы і спрыту таго, хто працуе, але і ад лапаты. А таксама, як паказаў вопыт, ад спосабу абыходжання з гэтым прывычным інструментам і нават ад абутку. Хочаце навучыцца капаць прыкладна ўдвая хутчэй, а стамляцца менш? Калі так, то ў сваёй звычайнай лапаце зрабіце доўгае дзяржанне, такое, каб яно заканчвалася на ўзроўні вачэй. Мадэрнізуйце крыху і свой абутак. Падэшву левага (ці правага) бота падбіце трывалай дошчачкай шырынёй 4 см і таўшчынёй 1,5 см. Даўжыня яе залежыць ад памеру абутку. Галоўнае, каб яна цалкам перакрывала ступню і яшчэ на 2-3 см выступала за абрэз наска.



У час работы, калі лапату прывычным рухам усаджваюць у зямлю, націскаючы на яе лязо левай нагой, дзяржанне не штурхайце ўніз, а адсоўвайце яго ад сябе. Пры гэтым верхні кант штыка слізгае па прымацаванай да бота дошчачцы, і, вырваўшыся з-пад яе, аказваецца над дошчачкай. Тут жа правай рукой пачынайце цягнуць дзяржанне на сябе, у выніку чаго лапата ўпіраецца ў дошчачку і вывapoчвае пласт глебы (гл. мал.). Пры гэтым ні ў якім разе не варта прыўзнімаць лапату абедзвюма рукамі за дзяржанне.

Калі вы выканаеце ўсе рэкамендацыі, капаць зямлю стане ўдвая хутчэй і лягчэй.

## ВАРТА ПРЫСЛУХАЦЦА

# Выпусціце «пару»

**Правілы прыстойнасці патрабуюць заўсёды трымаць сябе ў рамках: маўчаць, ветліва ўсміхацца. Толькі потым раптам забаліць страўнік, падскочыць ціск, прыхопіць радыкуліт. Ды мала што яшчэ можа здарыцца на нервовай глебе!**

Ва ўсім свеце спецыялісты лічаць, што ў стрэсавых сітуацыях раздражнёнаму чалавеку неабходна выпусціць «пару», разрадзіцца. Для гэтага прыдумана мноства цывілізаваных спосабаў. Напрыклад, у Амерыцы людзі спаганяюць свой гнеў на старых выкінутых аўтамашынах. Ідуць на бліжэйшыя «могілкі машын» і кувалдай сплюшчваюць тую, што прыглянулася. Японцы ставяць каля ўваходу ў цэх гумавую ляльку, якая ўяўляе сабою майстра цэха, і лупцуюць яе ад усёй душы.

Немцы аддаюць перавагу пластыліну. Вылепяць фігурку крыўдзіцеля — і давай яе мяць, пакуль уся злосць праз пальцы не выйдзе.

У Расіі сталі вельмі папулярныя так званыя лісткі гневу: звычайны ліст паперы, на якім напісана: «Калі раззлуешся, скамяч мяне і кінь у кут».

І, трэба адзначыць, такі просты спосаб зусім нядрэнна здымае стрэс.

А яшчэ псіхатэрапеўты раяць прытрымлівацца правіла: **чым мацней размаўляе субяседнік, тым цішэй вы павінны яму адказваць.**



Яго гнеў і ваша раздражненне як рукой зніме.

-1413-

**Калектыў «Звязды» выказвае шчырыя спачуванні сваёй супрацоўніцы Альбіне Юдчыц з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці МАЦІ.**

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы і запоўніце клеткі крыжаванкі.

**Па гарызанталях:** 5. Почва. 7. Черенок (ухвата). 9. Личность. 11. Дерево. 13. Гул. 14. Полнолуние. 15. Обод. 16. Жилище. 17. Доносчик (ист.). 22. Мнение. 23. Насмешка. 24. Опала. 25. Очередь. 26. Осмотр. 28. Тряпка. 30. Отсчёт. 32. Пагуба. 34. Палка. 35. Слог. 36. Качели. 37. Комната. 38. Жир (нутряной). 43. Умысел. 44. Ответ. 45. Кружка. 46. Тяж (в повозке). 47. Зачёт. 49. Ухват. 51. Перловка. 53. Крыльцо. 55. Сапог. 56. Жажда. 57. Спорт. 58. Грязь. 59. Роща. 64. Склон. 65. Копыто. 66. Нагул (с.-х.). 67. Льдина. 68. Бобр. 70. Бекас. 72. Пола. 74. Красота. 76. Запах. 77. Внимание. 78. Подборка (стихов). 79. Грудь (у лошади). 80. Мешок. 85. Ость. 86. Почка. 87. Ущерб. 88. Шмель. 89. Каравай. 91. Жёлоб (для воды). 93. Забрасывание. 95. Богатырь. 97. Рыло. 98. Издевательство. 99. Усталость. 100. Костерь (бот.). 101. Ужас. 106. Опиум. 107. Ель. 108. Волна. 109. Родственник.

**Па вертыкалях:** 1. Аир. 2. Пища. 3. Мощь. 4. Сирень. 5. Рассудок. 6. Верёвка (у лаптей). 7. Результат. 8. Деньги. 9. Осока. 10. Ежевика. 11. Даль. 12. Отвращение. 18. Омела. 19. Плеть. 20. Жезл. 21. Лист (бумаги). 26. Океан. 27. Упрёк. 28. Отара. 29. Икона. 30. Крючок (в одежде). 31. Краешек. 32. Усталость. 33. Охрана. 39. Изморось. 40. Акула. 41. Упряжь. 42. Бадья. 47. Согласие. 48. Труба (дымовая). 49. Возглас. 50. Экзамен. 51. Горн. 52. Скатерть. 53. Пуговица. 54. Лавка, магазин. 60. Ухаб. 61. Попрёк. 62. Влияние. 63. Тёплые края. 68. Ворота. 69. Канавка. 70. Багульник. 71. Ломоть (хлеба). 72. Фига. 73. Опера. 74. Ирис (бот.). 75. Овин. 81. Забава, радость. 82. Козырёк (головного убора). 83. Звезда. 84. Плотник. 89. Бровь. 90. Намерение. 91. Горсть. 92. Сражение. 93. Покушение. 94. Ребёнок. 95. Сорванец. 96. Тройник. 102. Число. 103. Замазка (оконная). 104. Крыша. 105. Гарь.

**Склала Ада МАРДУСЕВІЧ.**
*г. п. Глуск.*



## ЧАЙНВОРД «ЛЯ КАРТЫ»



1. Частка свету. 2. Астраўная дзяржава ў Карыбскім моры. 3. Праліў на поўдні Японіі. 4. Прыток ракі Прыпяць. 5. Астравы на поўначы Якуціі. 6. Горад і рака ў Бранскай вобласці. 7. Паўвостраў на паўночным захадзе Амерыкі. 8. Самая паўнаводная рака Паўднёвай Амерыкі. 9. Назва дзяржавы і яе сталіцы ў Афрыцы. 10. Адзін з самых старажытных гарадоў у Еўропе. 11. Буйны партовы горад у Індыі. 12. Прыбярэжная дзяржава ў Афрыцы. 13. Адзін з Курыльскіх астравоў. 14. Горная сістэма ў Азіі. 15. Рака ў Еўропе, якая ўпадае ў Міжземнае мора. 16. Астравы заліва Кампечэ. 17. Востраў у Японіі. 18. Рака на памежжы Еўропы і Азіі. 19. Сталіца Перу. 20. Заліў у Чырвоным моры. 21. Пустыня ў Чылі. 22. Мыс на поўначы Францыі. 23. Адно з пяці Вялікіх азёр Амерыкі. 24. Вялікая рака ў Афрыцы, якая ўпадае ў Міжземнае мора. 25. Грэчаскі востраў у Эгейскім моры. 26. Сталіца прычарнаморскай дзяржавы. 27. Паўвостраў на поўначы Расіі. 28. Адна з вялікіх рэк у Францыі. 29. Вулкан на японскім востраве Кюсю. 30. Буйны чыгуначны вузел на Беларусі. 31. Астраўная дзяржава ў Еўропе.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

## СЛОВА Ў ДУЖКАХ

Замест кропачак у дужках падстаўце слова, якое мела б дачыненне да абодвух слоў па-за дужкамі.

ПРЭЙСКУРАНТ (.....) САБАКА

# РЭШТА

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД (10 кастрычніка). Па гарызанталях:** 5. Карыстанне. 8. Грамада. 9. Кайстра. 10. Рада. 11. Смуга. 13. Асака. 15. Таўкач. 17. Плешка. 18. Братка. 19. Каршак. 22. Шалік. 24. Таран. 25. Маёр. 26. Сцяжына. 27. Ажыніна. 28. Адказнасць. **Па вертыкалях:** 1. Навала. 2. Цыгарка. 3. Гарката. 4. Жнейка. 6. Прамысловасць. 7. Практыкаванне. 12. Грошыкі. 14. Сажалка. 15. Траяк. 16. Чубок. 20. Асмалак. 21. Акравак. 23. Крыўда. 24. Трысцё.

**КРЫПТАГРАМА (10 кастрычніка).** Ключавыя словы ў ёй: гасцінец, дзындра, бугай, пляма. Прымаўка была зашыфравана такая: «Была нядзеля — і мы дудзелі, цяпер серада — працуй, грамада».

**ТАНЦУЮЧЫЯ ЧАЛАВЕЧКІ (10 кастрычніка).** У фігурак ёсць тры фасоны спаднічак, тры становішчы ручак, тры тыпу абутку, іншыя адрозненні. Улічваючы гэтыя акалічнасці, замест пытальніка трэба ставіць фігурку № 6.

**СКАНВОРД (10 кастрычніка).** Адказы на яго гл. на малюнку.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | І | | С | | Ш | | З | | С | |
| А | З | Б | Е | С | Т | | А | Р | А | Л |
| | А | Р | А | | У | І | Л | | Л | І |
| | Л | А | Н | Г | Р | | А | С | О | Т |
| І | Я | | С | У | М | О | | І | П | Р |
| | Т | Ы | | М | А | Д | А | М | | А |
| | А | | А | К | В | А | | В | У | Ж |
| Я | Р | Д | | А | І | | Т | А | Р | |
| | | О | М | | К | | У | Л | А | Р |
| Л | А | Г | І | Н | | А | З | | Н | А |

## РАІЦЬ СПЕЦЫЯЛІСТ

# НАРЫХТОЎКІ НА ЗІМУ

***На двары глыбокая восень. Здаецца, усё прыбрана з поля, агарода, саду. Зроблены нарыхтоўкі на зіму з садавіны. Але ля дома яшчэ палымнее касцёр з чырвонай рабіны, дзесьці ў глыбіні сада бурштынава-жоўтым колерам зіхаціць абляпіха, ці адзінока-сціпла туліцца да хаціны прыгажуня каліна, а некалі летам квітнеючая шыпшына, ад якой ішоў ап'яняльны водар, усыпана пунсовымі пладамі.***

***Многія, маючы такое багацце пад бокам, не ўяўляюць, наколькі яно каштоўнае і што можна зрабіць, каб надалей захаваць яго пажыўнасць, ці як перапрацаваць, каб захаваліся вітаміны і карысныя для арганізма чалавека рэчывы.***

***Пра каштоўнасць позніх дароў прыроды і пра тое, што трэба зрабіць, каб падоўжыць жыццё вітамінаў у іх, мы папрасілі расказаць намесніка загадчыка аддзела захоўвання і перапрацоўкі садавіны Беларускага навукова-даследчага інстытута пладаводства, кандыдата сельскагаспадарчых навук Марыю МАКСІМЕНКА.***

— Так, плады, што вы пералічылі, — гаворыць Марыя Рыгораўна, — гэта сапраўдная скарбніца вітамінаў і пажыўных рэчываў.

Напрыклад, каштоўнасць такой культуры, як абляпіха, абумоўлена багаццем змесціва яе пладоў. У іх змяшчаюцца амаль усе асноўныя тлушча- і водарастваральныя вітаміны, каля 15 мікраэлементаў. Абляпіха здаўна славіцца сваімі лекавымі ўласцівасцямі. Яе выкарыстоўваюць для лячэння сардэчна-сасудзістых захворванняў, апёкаў: флаваноіды, што ўтрымліваюцца ў пладах, станоўча ўплываюць на эластычнасць крывяносных сасудаў, аказваюць прафілактычнае і лячэбнае ўздзеянне пры атэрасклерозе. У лячэбных мэтах выкарыстоўваецца абляпіхавы алей.

Лічыцца, што найлепшым спосабам захавання вітамінаў і іншых пажыўных рэчываў у пладах з'яўляецца замарожванне, пры якім абляпіха выдатна захоўвае свой знешні выгляд і смакавыя якасці. У хатніх умовах зрабіць гэта вельмі проста. Плады папярэдне трэба ачысціць ад галінак і лісцікаў, памыць і абавязкова прасушыць, каб яны потым, у працэсе замарожвання, не збіваліся ў камочкі. Затым пакласці ў поліэтыленавы пакет альбо ў пластмасавыя каробкі (напрыклад, з-пад маргарыну «Рама») і змясціць у маразільнік. Увогуле з абляпіхі можна гатаваць кісялі, кампоты, сокі, морсы. Для гэтай мэты цалкам можна выкарыстоўваць замарожаныя плады.

**— З пладамі якіх іншых культур лепш за ўсё можна спалучаць пры нарыхтоўках плады абляпіхі?**

— Мы лічым, што абляпіха лепш за ўсё спалучаецца з яблыкамі. Адна з апошніх распрацовак нашага аддзела — гэта абляпіхава-яблычнае пюрэ. Даволі смачны і прыгожы на выгляд прадукт.

**— Што вы можаце параіць прыгатаваць з чарнаплоднай рабіны?**

— Адно толькі тое, што чарнаплодная рабіна багатая на ёд ставіць яе ў шэраг лекавых раслін. Акрамя таго, што з чарнаплоднай рабіны можна прыгатаваць кампот у спалучэнні з яблыкамі, зварыць варэнне, джэм, мы прапануем такі новы від перапрацоўкі, як кактэйль пладова-ягадны на яблычным соку. У асартымент уваходзяць плады чарнаплоднай рабіны, рабіны звычайнай садовай, шыпшыны, брусніцы, глогу. Напрыклад, у паўлітровы слоік закладваецца 100 г пладоў, залiваюцца яблычным сокам, дабаўляецца цукровы сіроп, усё гэта стэрылізуецца, закатваецца. Тэхналогія простая, але атрымліваецца вельмі смачны і пажыўны прадукт.

**— У народзе бытуе многа легендаў, паданняў, песень пра каліну. Мабыць, пра яе пажыўныя і лекавыя якасці можна сказаць не менш?**

— Так, гэта прадукт ад многіх хвароб. У каліне амаль удвая больш вітаміну С, чым у цытрусавых. Ёсць у ягадах і вітамін Р, таму вельмі карысна ўжываць іх без перапрацоўкі. Смачныя кампоты, жэле, кісялі з яе пладоў, выкарыстоўваюць каліну і як начынку для пірагоў.

Здаўна вядома, што каліна танізуе работу сэрца, здымае спазмы сасудаў, нармалізуе крывяны ціск. Адвар ягад з мёдам п'юць пры прастудах. Гарбата з каліны ўмацоўвае дзясны, а настой прапісваюць хворым на язву страўніка, дванаццаціперснай кішкі. Касметолагі выкарыстоўваюць сок каліны для ачысткі скуры. Пры парушэннях абмену рэчываў у дзяцей (залатусе) народныя траўніцы раяць прымяняць адвар кары каліны для ваннаў.

Часта задаюць пытанне, як лепш збіраць каліну: з галінкамі ці проста па ягадцы. Пажадана збіраць гронкамі, але не ламаць, а акуратна зразаць.

Даўней букеты з гронак каліны, рабіны падвешвалі ў сенцах, на гарышчах. Яна прамярзала, з яе выходзіла горыч, і пасля гэтага яе выкарыстоўвалі ў ежу. У нашых умовах каліну можна прамарожваць у маразільніках, а сок — закансерваваць. Каб атрымаць сок, ягады трэба адціснуць, але не моцна, таму што ўся горыч сканцэнтравана ў лупінах. Гэта можна зрабіць праз тканіну. Каліна добра аддае сок, калі яна знята з дрэва своечасова. Тады лупіны робяцца тонкімі.

**— Шыпшыну ў нас, мабыць, лічаць рэкардсменкай сярод пладова-ягадных культур па ўтрыманню вітаміну С?**

— Сёння вядома каля 400 відаў шыпшыны. Яна сустракаецца ўсюды, акрамя Крайняй Поўначы. Плады шыпшыны з'яўляюцца добрым полівітамінным прэпаратам, валодаюць жаўцягоннымі і процізапаленчымі ўласцівасцямі, рэгулююць дзейнасць страўнікава-кішачнага тракта, зніжаюць колькасць халестэрыну ў крыві. Настоі і адвары з яе дапамагаюць вывядзенню стронцыю і цэзію, іншых радыеактыўных элементаў з арганізма чалавека.

У хатніх умовах можна таксама прыгатаваць пюрэ. Для гэтага спелыя плады памыць, разрэзаць, ачысціць ад насення, праварыць, дабавіўшы працэнтаў 10—20 вады (у залежнасці ад сакавітасці ягад), потым працерці праз сіта. Каб атрымаць больш здробненую масу (як дзіцячае харчаванне) можна працерці праз сіта для прасейвання мукі. Потым усё гэта змяшаць з цукрам (кожная гаспадыня можа дабавіць яго на свой густ), зноў усё прагрэць, давесці амаль да кіпення — градусаў да 95. Разліць у гарачыя сухія стэрылізаваныя слоікі і закатаць.

А вось як можна прыгатаваць адвар шыпшыны: 100 г сухіх пладоў крышку патаўчы, заліць 1 л вады, пракіпяціць у закрытай пасудзіне 5—7 хвілін, даць настаяцца на працягу 2-3 гадзін, працадзіць — і можна піць. Калі ж адварыць трэба цэлыя плады, то іх гатуюць 10 хвілін, змяшчаюць у тэрмас і настойваюць 2-3 гадзіны. Для паляпшэння смакавых якасцяў можна дабавіць 5—10 г мёду.

Акрамя ўсяго вышэйсказанага, плады такіх культур, як чарнаплодная рабіна, рабіна чырвоная звычайная, каліна, шыпшына, можна высушыць і потым выкарыстоўваць для прыгатавання гарбаты.

А калі хто пажадае выкарыстаць некаторыя рэцэпты прыгатавання ў хатніх умовах кампотаў, джэмаў, варэнняў, вінаў і інш. з пладова-ягадных культур, я раю заглянуць у кнігу «Кансервуем самі» пад рэдакцыяй загадчыка аддзела захоўвання і перапрацоўкі пладоў, кандыдата біялагічных навук Рамуальда Лойкі.

**Валянціна ШПІЛЕЎСКАЯ.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем любых* ***Іосіфа Віктаравіча КАВЭЦКАГА*** *з 60-годдзем, а* ***Ганну Геранімаўну КАВЭЦКУЮ*** *— з 55-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту ў сям'і.*

**Дочкі, родныя,**
в. Навасёлкі.

*Сардэчна віншуем дарагую* ***Святлану Аляксандраўну ВІКТОРЧЫК*** *з днём нараджэння. Няхай здароўе, шчасце, жыццёвая мудрасць і дабрыня будуць спадарожнікамі ў тваім жыцці.*

**Бацькі, муж, дачка,**
г. Мінск.

*Сардэчна віншую* ***Святлану БУЙКА*** *і* ***Валерыя КАРДЭЛЯ*** *з днём шлюбу. Жадаю моцнага здароўя, шчасця і ўзаемнага кахання на доўгія гады.*

**Габрыяловіч,**
в. Гродзі.

*Ад усяго сэрца віншуем з днём нараджэння любімага і самага найлепшага ў свеце бацьку і мужа* ***Мікалая Максімавіча БУЯЛЬСКАГА.*** *Жадаем здароўя моцнага, шчасця вялікага і дабрабыту ў хату.*

**Дачка, жонка,** г. Мінск.

*Шчыра віншуем з днём нараджэння* ***Валянціну Уладзіміраўну АРЦЮШЫНУ.*** *Жадаем здароўя, поспехаў у працы, радасці, шчасця і дабрабыту ў сям'і.*

**Мезян** з г.п. Рудзенск.

*Віншую з днём нараджэння сына* ***Аляксандра Мікалаевіча РАШЧЭНЮ.*** *Жадаю моцнага здароўя, жыць не тужыць, да 100 год дажыць.*

**Маці,** в. Касцюкі.

*Шаноўнага* ***Васіля Уладзіміравіча ПАПЛАЎСКАГА*** *шчыра віншуем з 50-гадовым юбілеем і зычым яму здароўя, даўгалецця, любові і павагі родных і блізкіх, поспехаў у працы, шчасця ў жыцці.*

**Сябры,** г. Мінск.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.532. Індэкс 63850.
Зак. № 6110.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12